ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ

# ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА ПРАМЫСЛОВА-КААПЭРАЦЫЙНАГА САЮЗУ ПАЛЯЎНІЧЫХ

г. Менск. Савецкая, 68, тел 14-60

ВЫДАНЬНЕ ГАЗ. „БЕЛАРУСКАЯ ВЁСКА"

ПЯТЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ

УМОВЫ ПАДПІСКІ:

На 1 год . . . 2 руб. — к.
На паўгода . . 1 руб. 20 к.
На 3 месяцы . . . . 70 к.
Асобны нумар каштуе 30 к.

1931 № 1

СТУДЗЕНЬ

## Ленінізм перамагае і пераможа

Прайшло 7 год з таго часу, як сьмерць вырвала з нашых радоў Вялікага правадыра міжнароднага пралетарыяту—Уладзімера Ільліча Леніна.

Сем год бяз Леніна—гэта гады нясупыннай барацьбы партыі і рабочае клясы за выкананьне Ленінскіх заветаў, барацьбы за Ленінізм, барацьбы за пабудову сацыялізму.

Ажыцьцяўляюцца рабочай клясай і працоўным сялянствам пад кіраўніцтвам партыі ленінскія ідэі. Ленінскае пытаньне „хто-каго", „—пытаньне аб тым, ці пераможа сацыялізм капіталістычныя элемэнты ў прамысловасьці ці яны перамогуць сацыялізм,—ужо вырашана ў асноўным у карысьць сацыялістычных форм прамысловасьці, вырашана канчаткова і беспаваротна" (Сталін). Ленінскія пытаньні „хто—каго" вырашаюцца зараз і ў сельскай гаспадарцы.

СССР—сацыялістычная бацькаўшчына працоўных усяго сьвету ўступіў у пэрыяд сацыялізму.

Гэтыя ніколі і нідзе нячуваныя посьпехі сталі магчымы толькі дзякуючы таму, што наша партыя ні наіёту не адхілялася ад Ленінскай лініі, што наша партыя вяла няпрымірымую Ленінскую барацьбу на два франты—з правым і „левым" апартунізмам.

Ленін вучыў партыю, як трэба вырашаць нацыянальнае пытаньне і, змагаючыся за ленінскую нацыянальную палітыку, змагаючыся на два франты з вялікадзяржаўным шавінізмам як галоўнай небясьпекай, з мясцовым контрэвалюцыйным беларускім нацыянал-дэмократызмам, шавінізмам розных колераў, якія мелі і маюць адну мэту—аднаўленьне капіталізму ў краінах саветаў, партыя забясьпечыла актыўны ўдзел працоўных усіх нацый у будаўніцтве сацыялізму.

Сёмая гадавіна з дню сьмерці Леніна супадае з уступленьнем у трэці рашаючы год пяцігодкі,—у год, калі мы завяршаем пабудову фундамэнту сацыялістычнай эканомікі СССР.

Апошні аб'яднаны сьнежаньскі Пленум ЦК і ЦКК УсеКП(б) вызначыў праграму далейшага разгорнутага наступу сацыялізму па ўсім фронце.

Рост народнае гаспадаркі савецкага Саюзу ў 1931 годзе будзе роўным намётцы апошняга году пяцігодкі. Капітальныя ўкладаньні ў народную гаспадарку ў 3-м годзе пяцігодкі раўны 17 мільярдам рублёў. Калектывізацыяй у трэцім годзе пяцігодкі павінна быць ахоплена ня менш 50 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Па БССР партыяй і ўрадам вызначаны пляны капітальных работ па прамысловасьці на 171,8 міл. руб. Калектывізацыяй павінна быць ахоплена ня менш 45 процантаў бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Адсюль яскравымі становяцца і тыя задачы, якія стаяць зараз перад намі. Мабілізацыя мас на выкананьне і перавыкананьне вялікай праграмы будаўніцтва трэцяга рашаючага году пяцігодкі—зьяўляецца асноўнай задачай Ленінскіх дзён.

Новай хваляй росту сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва павінны мы адзначыць Ленінскія дні.

„Задача далейшай калектывізацыі вёскі зьяўляецца асноўнай генэральнай задачай партыі ў справе сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі" (з пастановы Кастрычніцкага пленуму ЦК КП(б).

Ленінскі прызыў у калгасы там, дзе была арганізавана работа даў новыя тысячы калгасьнікаў і сотні калгасаў.

Учарашнія адзінаасобнікі, бедякі і серадзякі—сёнешнія калгасьнікі Ленінскага прызыву з вёскі Харавічы, Сьмілавіцкага раёну ў сваім лісту да ўсіх батракоў, беднякоў і серадзякоў БССР пішуць: „мы прышлі да вываду, што адзіны шлях бедняка і серадняка—шлях калгасаў, шлях які ўказаны нам Уладзімерам Ільлічом Леніным...“ Іншага шляху няма і ня можа быць—„дробным гаспадаркам з нястатку ня выйсьці“ (Ленін).

Яшчэ вышэй мы павінны ўзьняць Ленінскі шлях суцэльнай калектывізацыі. Змагаючыся з праваапартуністычнай стаўкай за самацёк у калгасным руху з „левымі“ загібамі, па бальшавіцку вазглавім і арганізуем новы магутны Ленінскі прызыў у калгасы.

Уладзімер Ільліч ня раз падкрэсьліваў тое супраціўленьне, якое будзе аказваць калгаснаму руху клясавы вораг—кулак. У процівагу апартуністычных тэарэтыкаў аб „мірным урастаньні кулака у сацыялізм“ Ленін гаварыў, што калі мы не падавім кулакоў—„гэтых грубых і зьверскіх эксплёататараў, гэтых крывапіўцаў, піявак, вампіраў, дык яны аднавяць, як гэта ня раз было ў гісторыі іншых краін, уладу абшарнікаў, папоў, капіталістаў. І Ільліч указаў нам шлях, якім чынам перамагчы кулака.

Верная заветам свайго правадыра партыя дабілася таго, што прамысловасьць узяла на буксір сельскую гаспадарку. Прамысловасьць забясьпечыла карэнную перабудову сельскай гаспадаркі. На аснове гэтай перабудовы—на аснове суцэльнай калектывізацыі—мы ліквідуем кулацтва як клясу.

Па меры далейшага нашага наступу, далейшага нашага росту ўсё больш і больш будзе ўзрастаць супраціўленьне гэтае ліквідуемае клясы. Мы павінны быць бязьлітаснымі ў барацьбе з нашым клясавым ворагам—кулаком.

Мы павінны з усёй рашучасьцю біць па апартуністычнай тэорыі і практыцы аб мірным урастаньні кулака ў сацыялізм.

Сем пройдзеных год бяз Леніна—ёсьць сем год змаганьня працоўных пад кіраўніцтвам сваёй партыі, за пабудову сацыялізму ў нашай краіне, ёсьць сем год барацьбы прыгнечаных усіх краін за сусьветную рэвалюцыю.

Шмат працы, шмат цяжкасьцяй яшчэ ўперадзе. Ідучы далей Ленінскім шляхам, рашуча змагаючыся з кулаком, яго агэнтамі, правымі і „левымі“ апартуністамі, з прымірэнцамі рабочая кляса і працоўнае сялянства адзначаць Ленінскія дні яшчэ большай згуртаванасьцю вакол партыі і яго Ленінскага ЦК, яшчэ больш напружаць свае сілы на фронце будаўніцтва сацыялізму, на фронце ўмацаваньня абароназдольнасьці нашае краіны.

Ленінскі сьцяг асьвятліў нам шлях, шлях перамог. Пад гэтым сьцягам мы перамаглі, перамагаем і пераможам. Пад гэтым сьцягам змагаецца пралетарыят за сусьветную рэвалюцыю.

Ленінскі сьцяг пераможа ва ўсім сьвеце.

# Выганім нэпманскі дух з паляўнічай каапэрацыі!

Аб'яднаны сьнежанскі пленум ЦК і ЦКК УсеКП(б) вынес суровую рэзалюцыю па дакладу Цэнтрасаюзу аб дзейнасьці спажывецкай каапэрацыі. Работа спажывецкай каапэрацыі прызнана нездавальняючай. Пленум адзначыў, што „важнейшым недахопам спажывецкай каапэрацыі зьяўляецца наяўнасьць „нейкага нэпманскага духу“ ў працы, элемэнты самацёку, бюракратызму і апартунізму на практыцы, прыводзячыя да затаварваньня ва ўмовах дэфіцытнасьці тавараў, засьмечанасьці апарату чужымі, а таксама шкоднымі элемэнтамі..., слабы ўдзел каапэрацыйных мас спажыўцоў у рабоце па кантролю кіраўніцтва спажывецкай каапэрацыі і адсутнічаньне разгорнутай самакрытыкі“.

Рашэньні пленуму маюць вялікае значэньне і для нашай сыстэмы. Элемэнты бюрактызму, адсутнічаньне кантролю і самакрытыкі мае месца ў большасьці нізавых зьвеньняў паляўнічай каапэрацыі.

Запатрабаваньні, якія зараз прад'яўляюцца да каапэрацыі, у тым ліку і паляў-

нічай, натуральна, узрастаюць у адпаведнасьці з тым палажэньнем, якое яна займае ў сыстэме нашай народнай гаспадаркі.

Нябывалы ўздым народнай гаспадаркі краіны, рост матэрыяльнага дабрабыту працоўных, культурны ўзрост працоўных як у горадзе, так і на вёсцы—усё гэта цесна зьвязана з работай каапэрацыі і патрабуе ад яе новых форм і мэтадаў працы.

А між тым, паляўнічая каапэрацыя БССР на сёняшні дзень яшчэ не перабудавана. Яна яшчэ не пасьпявае за ростам, яна яшчэ не павярнулася тварам да паляўнічых мас. Налічча „некоего нэпманского духа“ ў каапэрацыі, аб чым сказаў сьнежаньскі пленум ЦК і ЦКК УсеКП(б) асабліва мае месца ў нашей сыстэме. Захапляючыся гандлярствам дзеля атрыманьня прыбытку, мы часта забываем пра каапэраваную масу паляўнічых, пра яе запатрабаваньні, пра клясавыя задачы каапэрацыі. Замест неабходных для паляўнічых прылад і тавараў, у большасьці месц паліцы паляўнічых крам запоўнены рознымі музычнымі інструмантамі, спартыўнымі рэчамі і іншай бакалеяй. А ў некаторых мясцох зусім нічога няма—ні першага, ні другога. Крамнікі магазыну, а з імі разам і старшыні таварыства нярэдка чакаюць, пакуль хто за іх паклапаціцца і прышле тавары.

На што зараз скардзіцца паляўнічы? На тое, што адсутнічае неабходны тавар для паляваньня ў паляўнічай краме, на тое, што паляўнічая каапэрацыя ў большасьці не вядзе ніякай палітычна-выхаваўчай работы сярод паляўнічых, стаіць у баку ад сацыялістычных тэмпаў работы.

— Да пачатку адкрыцьця сэзону паляваньня на зьвера,—піша паляўнічы Грышакоў з Гарадоцкага раёну,—н я  б ы л о  н і в о д н а г а  к і л ё  ш т р о т у  н а  600  п а л я ў н і ч ы х. Няма яго і да гэтага часу.

Амаль такія заявы з большасьці месц. Бывае і так, што зараз, узімку паліцы паляўнічых крам запоўнены летнімі таварамі, а сэзонныя адсутнічаюць.

Пагоня за гандлем дзеля гандлю, нэпманскі дух у каапэрацыі робіць каапэрацыю бясклясавай. Адсюль мы маем засьмечанасьць у паасобных мясцох нашай сыстэмы, адсюль мы маем шэраг выпадкаў, калі паляўнічая каапэрацыя стаіць у баку ад праводзімых партыяй і ўрадам палітычна-гаспадарчых мерапрыемстваў.

Пэрыяд рэканструкцыйны, пэрыяд абвостранага клясавага змаганьня як у горадзе, так і на вёсцы, патрабуюць ад каапэрацыі дакладнай выразнай клясавай работы і разуменьня сваіх задач, патрабуюць ад каапэрацыі стаць на службу сацыялістычнаму будаўніцтву.

Мы ўступілі ў трэці рашаючы год пяцігодкі, у год завяршэньня пабудовы фундаманту сацыялістычнай экономікі СССР. Перад каапэрацыяй стаяць новыя складаныя задачы. Паляўнічая каапэрацыя, як і каапэрацыя іншых сыстэм, павінна падпарадкаваць усю сваю работу сацыялістычнаму будаўніцтву. Для гэтага неабходна перабудаваць работу сыстэмы з тым, каб яна адпавядала запатрабаваньням сёнешняга дня з тым, каб яна не адставала ад тэмпаў жыцьця. Для гэтага неабходна мабілізаваць шырокія масы паляўнічых, усю савецкую грамадзкасьць.

З м а г а ю ч ы с я  з  к у л а ц т в а м,  я г о  а г е н т у р а й — п р а в ы м і  і  „л е в ы м і“  ў х і л і с т ы м і,  п а л я ў н і ч а я  к а а п э р а ц ы я  п а в і н н а  с т а ц ь  с а п р а ў д н ы м  а р г а н і з а т а р а м  п а л я ў н і ч ы х  м а с  н а  в ы к а н а н ь н е  в ы з н а ч а н а й  с ь н е ж а н ь с к і м  п л е н у м а м  ЦК  і  ЦКК  УсеКП(б)  в я л і з а р н е й ш а й  п р а г р а м ы  р а з г о р н у т а г а  с а ц ы я л і с т ы ч н а г а  н а с т у п л е н ь н я  п а  ў с і м  ф р о н ц е.

**У кожным паштовым аддзяленьні можна падпісацца на часопісь „Паляўнічы Беларусі“.**

**Унясі два рублі гадавой падпісной платы і атрымаеш дванаццаць ілюстраваных нумароў часопісі.**

# САБАКАГАДОЎЛЯ

## Да аднаўленьня сабакагадоўлі

У № 10 нашае часопісі т. Сільнікаў даў нібы наметку пляну па гадоўлі паляўнічых парод сабак у Беларусі.

Слоў няма, што справа гэта за апошнія часы заняпала і трэба знайсьці такі мэтад гадоўлі сабак, які-б быў адначасна і недарагім і дзейным. Аб гэтым гавораць і пішуць паляўнічыя масы, асабліва з вёскі, дзе паляваньне зьяўляецца паўпромыслам, а бяз добрага сабакі няма і гутаркі аб паляваньні—гэта толькі пустая трата сродкаў і часу. І на самай справе, як узяць, скажам, ліса, без ганчака? Можна паляўнічаць на зайцоў і на птах і без сабак, але і тут паляваньне ня будзе здабычлівым.

І не дарма пішуць з Слуцкага раёну, што зьвера ў іх у гэтым годзе шмат і паляўнічыя маюць час займацца нарыхтоўкай пушніны, але няма добрых сабак, а бяз іх няма і паляваньня, асабліва па такім глыбокім сьнягу, як сёлета. Ды і ня толькі ў Слуцкім раёне такое становішча.

Так што, абнавіць справу сабакагадоўлі настаў час і т. Сільнікаў, своячасова адзначыў гэта і паказаў тыя шляхі, па якіх павінна разьвівацца сабакагадоўля.

Але ўсё-ж такі ім ня зусім добра прадуман гэты шлях. Я не хачу спрачацца з т. Сільнікавым, а толькі пакажу на тыя недахопы, якія ёсьць у артыкуле т. Сільнікава.

„Трэба, каб раённыя праўленьні т-ваў паляўнічых пачалі падлік у сваіх раёнах заводзкіх (*? Б.*) сабак, вывучалі-б іх якасьць і *пароднасьць* і *лепшых па экстэр'еру* (падкрэсьлена мной), па рабоце з кожнай пароды адабраць для атрыманьня патомства для іх",—піша тав. Сільнікаў.

Канкрэтызуючы такую думку няўхільна прыдзем да вываду, што раённыя таварыствы і павінны займацца гэтай справай. Але-ж трэба ўлічыць тое, хто, якія сабакаводы, ёсьць у нашых раёнах? Ці ёсьць там (у любым з іх) такі чалавек, які-б ведаў экстэр'ер пароднага сабакі; што лічыцца пародным, а што непародным; дзе мерка „добрых якасьцяй" сабакі па рабоце? Ці знаём хоць адзін паляўнічы з раёну, нават і сам т. Сільнікаў, з стандартам выпрацованым сабакаводамі?

Калі прыняць да кіраўніцтва думку т. Сільнікава, дык я баюся за выніні, што мы ня толькі не захаваем таго, што ў нас было пароднага ў сабак, але і зусім страцім яго; чыстакроўныя сабакі зьмяшаюцца з кундалямі і страцяць свае ня толькі экстэр'ерныя якасьці, а і рабочыя.

„ ... раённыя т-вы... павінны кіраваць сэкцыямі сабакагадоўлі ў паляўнічых ячэйках, даваць паляўнічым, а таксама і ячэйкам *парады* (падкрэсьлена мной) па гэтым пытаньні".

Прачытаўшы гэта і, ня жывучы ў Беларусі, можна падумаць: „во, якія багатыя людзі! У іх кожным райтаварыстве ёсьць сабакавод, які ведае, бязумоўна, гэту справу і кіруе ёй".

На справе-ж у нас у раёне няма, за выключэньнем аднаго, здаецца, ніводнага чалавека, які-б не зьмяшаў па экстэр'еру кундаля з ганчаком, сэтэра з шпіцам, пойнтэра з таксам. І вось такія людзі павінны ня толькі самі гадаваць сабак, але і парады даваць другім па гэтаму пытаньню.

„...Лепшым паляўнічым, *ведаючым справу*, трэба аддаваць для навучэньня сабак, а ў лік платы даваць шчанкоў ад іх".

Калі тут ідзе гутарка толькі аб ганчаках, дык гэта яшчэ туды сюды, але калі і аб выжлах (лягавых)—то гэта нікуды ня варта. Усім вядома, што ў нас на вёсцы выжлаў няма, ручаюся, ніводнага маламальскі добрага і паляваньне з імі „па пяру" не практыкуецца на вёсцы. І ня толькі шчанюка, але калі даць старога, добра навучанага сабаку (пойнтэра, сэтэра) паляўнічаму вёскі, дык ён за некалькі паляваньняў забудзе тое, што ведаў і навучыцца... гнаць голасам цецярука ці

іншую птаху. Апроч таго, дзе ўзяць матар'ял выжлаў для першапачатковага разгортваньня справы сабакагадоўлі, калі яго няма на вёсках?

„...Пэрыядычна павінны ўтварацца раённыя выстаўкі паляўнічых сабак, палявыя спробы. Егяры, якія лепш натрэніравалі сваіх сабак, апроч прэміраваньня на сваіх раённых выстаўках, павінны ўдзельнічаць разам са сваімі сабакамі на Усебеларускіх выстаўках сабак. Тут будуць адчынены курсы для падрыхтоўкі егяроў".

Тут думка верная, але яе трэба канкрэтызаваць, што я і зраблю.

**Аб курсах і егярох.** Трэба не чакаць выставак 1931 году (якія штогод чамусьці адкладаюцца), а арганізаваць курсы егяроў сабакаводаў зараз, вясной, як толькі можна будзе вучыць сабак, адвёўшы для гэтага дзе-небудзь вучастак паляўнічага ўгодзьдзя і забараніўшы там паляваньне на ўвесь час. Калі ў нас будуць егяры, толькі тады і можам даваць ім даручэньне навучыць сабак, а інакш гэта будзе ня вучэньне, а мучэньне і самаго сябе і сабакі. Далей, на курсы трэба абавязкова па чалавеку з кожнага раёну, каб такім чынам утварыць асноўны „капітал", на які можна будзе абапірацца пры разьвядзеньні сабак у раёнах, у паляўнічых ячэйках. Яны будуць кіраваць гэтай справай. Апроч таго, трэба мець хаця-б па аднаму добраму сапраўднаму егяру ў кожным больш буйным цэнтры (горадзе), дзе больш за ўсё паляўнічых сабак, асабліва выжлаў. Тады, аб'яднаўшы гарадзкіх паляўнічых, якія займаюцца гадоўляй выжлаў (лягавых), а таксама і ганчакоў, у сэкцыю зацікавіўшы іх; забіраць ад іх сабак шчанкоў і перадаваць вучыць егярам, а потым па-пары (выжлеца і выжлоўку) аддаваць у раёны платна або бясплатна, дзе, такім чынам, створыцца асноўны „капітал" для сабакагадоўлі.

Трэба „Белкохотсаюзу" мець штатнага сабакавода—аднаго ці двох—якія б маглі езьдзіць па раёнах і кансультаваць там паляўнічых, гадуючых сабак, утвараць вывадкі, выстаўкі, *адбіраць* добры матар'ял.

З ганчакамі-ж, якія ёсьць у вёсцы (там выжлаў няма), справа абстаіць лягчэй. Трэба толькі паслаць туды свайго сабакавода, які-б вылучыў пародных і добрых экзэмпляраў з агульнай масы. Потым, арганізаваўшы іх у сэкцыі, магчыма ў арцелі і зацікавіўшы, пад кіраўніцтвам чалавека, скончыўшага курсы, і пад наглядам сабакавода, прыступаць да самой гадоўлі сабак.

Калі-ж мы прыступім да гэтай справы так, як раіць т. Сільнікаў *без кадраў, без адабранага матар'ялу,* дык мы прымусім паляўнічых пералаіцца між сабой (бо не адзін паляўнічы ня скажа, што яго сабака кепскі!), і *перамяшаем усе пароды сабак між сабой,* чым і кончыцца ўся гэта зацея.

Наогул раней трэба падабраць людзей, даць ім хоць элемэнтарныя зьвесткі аб сабакагадоўлі і атрымаць заводзкі матар'ял, з якога можна пачынаць сабакагадоўлю, а гэта магчыма будзе зрабіць толькі тады, калі будуць існаваць сэкцыі сабакагадоўлі і адна з іх—цэнтральная пры „Белкохотсаюзе" *з моцным штатам.* Інакш сабакагадоўля заняпадзе.

**Бунтар.**



# Аб крадзежы сабак

У Англіі, перш чым прывезьці ў горад сабаку любой пароды, яго трэба пратрымаць два тыдні ў сабачым спэцыяльным ізалятары. Там выяўляецца—хворы сабака ці здаровы?

І Англія даўно ўжо забылася аб тым, што такое шаленства. Шаленства там бывае вельмі рэдка, у некалькі год адзін выпадак і то там ужо гэты выпадак выклікае цэлую сэнсацыю.

Такім чынам, Англія зьнішчыла самую страшэнную хваробу, ад якой у нас гіне шмат жывёлы, а таксама людзей, а больш за ўсё сабак. Гэта мера папярэджвае распаўсюджваньне і іншых заразных хвароб.

Асабліва ангельцы такой мерай зьнішчылі крадзеж сабак, бо перш, чым прывезьці ў горад сабаку і здаць яго ў ізалятар, неабходна прыставіць сабачы пашпарт, які сьведчыць прыналежнасьць сабакі да гаспадара і інш.

І былі выпадкі, што ўкрадзенага сабаку, скажам, у Лёндане, знаходзілі на другім канцы матэрыка, ці нават, на другім матэрыку на выспах Паўднёвых мораў, у Амэрыцы і г. д.

Апроч усяго гэтага, за мяжой, як ужо ня раз паведамлялася ў нашым часопісу, існуюць спэцыяльныя гасьцініцы для сабак, дзе можна атрымаць за вядомую плату ня толькі асобны пакой для сабакі, а гатовыя харчы, ванну і г. д. Гэта таксама перашкаджае крадзяжу сабак і пашырэньню заразных хвароб.

Ні ў якім разе я не хачу гэтым сказаць таго, што і мы зараз-жа павінны будаваць, хаця-б у найбольш буйных цэнтрах гасьцініцы для сабак, ці хаця-б ізалятары. Пакуль, што мы ня можам гэтым займацца: перад нашай краінай стаяць у тысячу раз больш важныя задачы.

Але ўсё-ж такі, саюз паляўнічых павінен паклапаціцца і аб паляўнічых сабаках. Зараз усюды скардзяцца на крадзеж сабак. І сапраўды, сабак у нас крадуць так, што няма аніякай магчымасьці ўберагчыся ад гэтага ганебнага зьявішча. Яшчэ год таму назад, „Белкохотсоюз" увёў быў сабачыя пашпарты. Здавалася-б, што справа пойдзе ўперад. Але на гэтым яна і застыла. Выдалі сабаку пашпарт і кропка.

Тут трэба пайсьці далей. „Белкохотсаюз" выдаў пашпарты, дык яму трэба і дабівацца таго, каб пашпарты гэтыя былі патрэбны на справе. Калі крадуць сабаку, дык вядома, яго хочуць пераправіць з таго месца, дзе ён украдзен. Вось тут і трэба „Белкохотсаюзу" дабіцца, узгадніўшы гэтае пытаньне, паколькі яно зараз мае вялікае значэньне (нарыхтоўка пушніны) з міліцыяй, Наркамюстам, каб ні ў якім разе да перавозкі па чыгунцы ня прымаліся беспашпартныя сабакі і не рэгістраваліся паляўнічымі орг. Гэта адыграе вялікую ролю ў барацьбе з крадзежам сабак.

Апроч таго, трэба дабіцца, каб і сабачыя ізалятары ў гарадох, злавіўшы паляўнічага сабаку, ня збывалі яго, і абавязкова паведамлялі мясцовыя арганізацыі саюзу паляўнічых.

Наогул трэба дабіцца таго, каб і сабака атрымаў правы нараўне з іншымі жывёламі,

М. Ц.

**Павядзем барацьбу з крадзежам сабак.**



# Гутарка з маладым паляўнічым

## ЦІ ПАТРЭБНЫ ПАРАТЫ ГАНЧАК

Сустрэўшыся нядаўна з адным маладым паляўнічым я разгаварыўся з ім аб ганчаках. Малады чалавек аказаўся вельмі славаахотлівым і любазнацельным, а таксама меў некаторыя зьвесткі адносна парод ганчакоў і іх палявых якасьцяй. Ён закідаў мяне пытаньнямі, амаль недаваўшы адказаць і сам сьпяшаўся зараней выказаць сваю думку па поваду таго, што яго цікавіць. Такія тыпы зараз сустракаюцца вельмі часта і таму, я раз назаўсёды ўсвоіў сабе спосаб гутаркі з імі, цярпліва чакаючы пакуль ён выкажацца канчаткова і замаўчыць, запамінаючы толькі асабліва цікавыя в яго пытаньняў, каб потым на іх адказаць.

На гэты раз мне прышлося чакаць даволі доўга, але ўсё-ж такі канец патоку слоў маладога паляўнічага наступіў і я мог ужо спакойна, бязбоязна быць перабітым на поўслове, стаў супярэчыць свайму маладому сябру.

Сэрыя пытаньняў, адзначаных мною ў памяці аказалася вельмі вялікай і, да рэчы, усе яны вельмі злабаднеўныя, так што адказваць на іх у адну сустрэчу было зусім не пад сілу і я выбраў адно з іх, якое паставіў загалоўкам гэтай гутаркі і пачаў выкладаць яму свой погляд на гэты прадмет, зараней папярэдзіўшы па поваду іншых пытаньняў наведаць мяне дома і пагутарыць.

Малады чалавек падзякваў, а потым сапраўды стаў мяне наведваць чуць ня кожны вечар, так што гутаркі з ім выліліся ў цэлы цыкль трактатаў па пытаньнях сабакагадоўлі і палявых якасьцяй гончакоў.

Пасьля кожнай такой гутаркі я садзіўся і каротка запісваў усё перагаворанае намі за гэты вечар і, па колькі пытаньні, закранутыя ў гэтых гутарках цікавы для ўсіх паляўнічых-ганчатнікаў, наогул рашыў паступова перадаць іх у друк.

Усе гэтыя запіскі, аднак, будучы ўзяты разам уяўляюць сабой зараз такі абшырны рукапісны матар'ял, што ня могуць быць зьмешчаны ў адным чарговым нумары часопісі, а таму прыдзецца пасьля апрацоўкі пускаць яго ў друк у выглядзе гутарак на адну якую-небудзь тэму.

І так, пытаньне першае: Ці патрэбен параты ганчак?

Малады паляўнічы, з падабаючым яму апломбам заявіў:

Параты-ганчак для ружэйнага паляваньня зусім непатрэбен, ён нават для яго шкодзен, такі ганчак быў патрэбен толькі для мінулых псовых паляваньняў, каб хутчэй падаць зьвера з выспы (як аказалася ён у справе псовага паляваньня лічыў сябе нешта ведаючым). Для ружэйнага паляваньня пешы ганчак куды прыгодней, з-пад яго зьвер ідзе больш ціха і спакойна, трымаецца свайго лаза і робіць куды меншае кола, чым пад паратым. У полазе пешы ганчак не ўходзіць так далёка як параты, а таму і зьвер падымаецца бліжэй да паляўнічага і апошняму ня трэба вельмі сьпяшацца да месца пад'ёму, куды, зрабіўшы кола, зьвер звычайна вяртаецца. Пры наяўнасьці нават параўнаўча невялікага нюху, пешы ганчак вярней разьбірацца ў сьлядох, як пры здабываньні, так і тады, калі гоніць зьвера, а таму парамоўчакі сколаў у яго заўсёды менш, чым у паратага. Адсюдь гон яго больш роўны, чым палягчае паляўнічаму задачу сустрэцца з зьверам. Пешы ганчак бязумоўна, і больш настойлівей, чым параты, бо, як вядома, што хуткасьць заўсёды абратна прапарцыянальна сіле. Урэшце голас, а гэта вельмі важная якасьць ганчака, у пешага сабакі вядома павінен быць больш суцэльным і гучным, чым у паратага ўжо ў сілу аднаго таго, што дыханьне, якое расходуецца апошнім вельмі многа на хуткасьць, эканоміцца першым і дае больш моцнасьці гуку.

— Усё гэта ў тэорыі, можна сказаць, правільна,— згадзіўся я адразу, зразумеўшы, што мой праціўнік па маладасьці сваёй больш тэорэтык, чым практык. —Але вось на справе, то бывае зусім інакш.

Справа ў тым, дарагі мой, што галоўнае ва ўсім гэтым працяг часу. Быў час, калі ружэйныя паляўнічыя па пяру любілі больш ціхага і спакойнага сабаку, чым сабаку з шпаркім ходам, які захоплівае ў поіску чуць ня тры-чатыры гектары. Хадзьба з такім сабакам у лесе за цецярукамі або слонкамі лічылася няпрыемнай па тэй прычыне, што сабака часта ўходзіць з вачэй і сачыць за яго работай было-б вельмі цяжка і ўтаміцельна для ног паляўнічага. Калі-ж прыняць пад увагу, што ўся прыгожасьць паляваньня з выжлам выключна успрымаецца наглядна, гэта значыць назіраньнем, як сабака прычуе, падводзіць, стане і потым падасьць птаху паляўнічаму, дык задавальненьне ад паляваньня ў лесе з выжлам з шпаркім ходам здавалася-б павінна атрымацца невялікае. Але вось час прымусіў і мяне, аматара да ціхага выжлы, зьмяніць свой погляд.

Усяму прычынай зьявілася паўсямеснае зьмяншэньне дзічы. Там, дзе на абшары якіх-небудзь 10-15 гектараў можна было лёгка знайсьці два, а то і тры вывадкі цецярукоў, зараз можна не знайсьці ніводнага або нават на 50 гектараў адзін ывадак. З ціхім выжлам, каб выхадзіць такі абшар, трэба паляўнічаму патраціць шмат сваіх



сіл і вынік вядома будзе такі самы, як і тады, калі з выжлам шпаркім ходам паляўнічы перакладзе сваю працу на сабаку. Шпаркасьцю поіска сабакі, як зараз ужо даказана практыкай, дасягаюцца дзьве мэты: па-першае, паляўнічы мінае празьмернага стамленьня, а па-другое — і птаха знаходзіцца сабакам з шпаркім ходам у больш кароткі тэрмін, чым тым, які ходзіць каля ног паляўнічага. „Нужда", кажа прыказка, „заставіць калачы есьць" і паляўнічыя па пяру ў гэтых-жа самых мэтах дабіваюцца нават ад сваіх сабак так званага „анонса", гэта значыць, каб сабака шукаў зусім самастойна, безназіраньня паляўнічага і толькі, знайшоўшы птаху, паведамляў яго аб гэтым, але такое паляваньне не так ўжо цікава, аднак, упаўне рацыянальна пры сучасным абядненьні месц дзічай.

Я казаў аб неабходнай зараз шпаркасьці поіску выжлы таму, каб падкрэсьліць асабліва шпаркі і шырокі полаз ганчака. Усё сказанае вышэй аб паменшэньні дзічы ў мясцох яе вываду яшчэ ў большай меры адносіцца зараз да зьвера.

Там, дзе, напрыклад, зайцаў было шмат, можна было знайсьці іх дзесяткамі, зараз нельга ўбачыць нават аднаго. Паляўнічых стала многа, так многа, што наўрад ці прыдзецца на кожнага з іх па аднаму зайцу. Рэдка можна папасьці зараз у такія мясцы, дзе зьвер не напалохан, а па большай частцы ён нагананы да таго, што, падняўшыся з логава, адразу ляціць ва ўсе ногі.

Які-небудзь белячышка часта робіць колы, якія пад сілу толькі мацерай-лісіцы, а то проста дае бяз аніякіх колаў кілёмэтры за 3-4, негаворачы ўжо аб шараку, які зараз ходзіць чыстымі палямі і на больш далёкую адлегласьць.

Дзе тут дачакацца яго з пад пешага ганчака? Правядзеш цэлы дзень! Ды і здабыць зьвера, калі на 100 гэктараў два зайцы, з пешым ганчаком цяжка. Вядома, пры ўдачы знойдзеш і хутка, але па большай частцы наб'еш усе ногі, пакуль яго падымеш. Недарма-ж, нядаўна, неяк М. І. Аляксееў на старонках аднаго з паляўнічых часопісаў узьняў пытаньне аб зьняцьці з спроб такіх ганчакоў, якія не выяўляюць шпаркасьці і шырокага полазу, а такім полазам ніколі не ўладаў пешы ганчак. Ды, урэшце, і для паляўнічага шмат цяжэй хадзіць у лесе з пешым ганчаком Тут ня пойдзеш дарожкамі ці палянкамі, а трэба самому лезьці кустамі, каб прымусіць чакаць і дапамагчы яму здабыць зьвера.

Параты ганчак проста з ашэйніка кідаецца ў лес і яго ня ўбачыш да таго часу, пакуль дзе-небудзь далёка ён не зальлецца на сьляду або па паднятаму зьверу. Даць кола ў 3-4 кілёмэтры для яго ня доўга. Хутка ўходзячы з слыху пасьля пад'ёму зьвера, ён таксама хутка пападае зноў на слых і вядзе яго ўжо назад, пад ім зьвер рэдка ідзе ў бок і ўжо не засядзіцца, дзе-небудзь, каля куста, асабліва, калі ён уладае каштоўнай і толькі прысвоенай яму якасьцю: верхнім нюхам. Такім нюхам можа карыстацца толькі ганчак з шпаркім ходам, так што пачуць самаго зьвера, а не яго сьлед, ён можа толькі на параўнаўча кароткай адлегласьці ад яго і таму пешы ганчак, знаходзячыся звычайна далёка ад зьвера, гоніць выключна ніжнім нюхам, або калі і бярэ верхнім, дык толькі сьлед, а не самаго зьвера, што не дае яму выйгрыша ў скарачэньні адлегласьці супроць ідучага із'вілістым шляхам — напрыклад беляка. Што датычыць настойлівасьці, дык тут уся справа ў мускулатуры і сухасьці сабакі і супроць першага мускулістага сухі, паджары, параты ганец заўсёды вытрымае большую работу. Выпадкі заганяньня зьвяроў паратамі ганчакамі вельмі ня рэдкі, а каб заганяць хаця-б беляка, трэба часу ня менш 2-3 гадзін. І што-ж? Пасьля загоненага зьвера з гэтымі сабакамі нельга ўжо працягваць паляваньня? Яны стомяцца і, можа быць палягуць? Аддахнуць 10-15 мінут, а то і менш і зноў хуткім намётам пойдуць у полаз, а праз некалькі часу вы можаце зноў пачуць прыгожы гон параных.

Аб галасох гаварыць ня прыходзіцца, бываюць і пешыя, безгалосыя, а бываюць і паратыя з такімі галасамі, што мурашкі бягуць па сьпіне калі іх чуеш. Уся справа тут у калодцы ганчака і, галоўным чынам, у пабудове яго грудзей і робраў, калі перад разьвіты ў яго, багатырскі, ніякая шпаркасьць ходу не пазбаве ганчака гучнага з залівам голасу.

Дык вось, паважаны таварыш! Паверце мне, што з параным ганчаком зараз паляўнічыць хаця-б за зайцамі нельга, ад таго мы ўжо не заўважваем амаль ні ў кога з ганчатнікаў пешых ганчакоў, а на палявых спробах паратасьць лічыцца высокім балам.

Мой праціўнік уважліва, і ні разу не перабіўшы выслухаў маю адповедзь і потым, калі я кончыў, сказаў:

— Такіх сабак, як вы мне апісалі, я нядаўна сам чуў у майго сябра і, сказаць вам папраўдзе, зьдзівіўся іх рабоце, але тэорэтычна — я не магу ніяк растлумачыць сабе — адкуль гэта ў іх бярэцца? Можа быць уплыў пароднасьці? Аднак, позна. Заўтра, калі дазволіце, завярну зноў увечары і зачэпім іншыя пытаньні, а пакуль бывайце!

**Н. Чэлішчаў.**



**Падпішыся на часопіс своечасова — будзеш гарантаваны акуратнай дастаўкай.**

# ТРУСАГАДОЎЛЯ

## Гадоўля трусоў у Германіі

*(З артыкулу А. Мейзера, Бэрлін)*

### Утрыманьне трусоў

Трусы не патрабуюць асобных умоў як у сэнсе памяшканьня, так і ўтрыманьня: некалькі квадратных мэтраў зусім дастаткова для пасьпяховага іх разьвядзеньня і ўтрыманьня. Пры гэтым, аднак, ня трэба ўпускаць з віду, што некаторыя асноўныя ўмовы павінны быць захаваны пры пабудове памяшканьня для трусоў: якія павінны быць па магчымасьці мэтазгодны і танны. Каштоўныя пабудовы ні ў якім разе не акупляюць сябе ў трусаводзтве, з другога боку і празьмерная бяраждівасьць у гэтай адносіне можа прынесьці вялізарныя страты пасьля. Хлеўчыкі, пабудаваныя з недобраякаснага матар'ялу, абыходзяцца ў выніку нямінуючых частых рамонтаў у канцы канцоў вельмі дорага.

У былыя часы трусоў трымалі ў агульных памяшканьнях, хлявох, пунях ці ў загонах на волі, загарожаных драцяной сеткай. У наш-жа час зусім пакінулі падобныя прыёмы. Трусаводы, у якіх ёсьць вольная сенажаць, вядома, могуць разводзіць трусоў і на волі, але ў такім выпадку сенажаць абгараджваецца драцян й сеткай, аснова якой закапваецца сант. на 50 у зямлю, інакш трусы хутка зробяць сабе ходы ў зямлю і разьбягуцца. Аднак, трэба заўважыць, што плянамернае, племяннное разьвядзеньне трусоў такім парадкам нямысьліма з тае прычыны, што кантроль і назіраньне за племяннымі трусамі зьяўляецца ў даным выпадку ня выкананым.

Сучаснае трусаводзтва прадугледжвае для кожнага труса, прынамсі для кожнага дарослага племяннога труса, асобны хлеўчык. Кіруючыся выключна гэтым прынцыпам, можна дабіцца пэўнага кантролю над усімі племяннымі працэсамі і толькі дапасаваньнем гэтага мэтоду сучаснае трусаводзтва магло дасягнуць тых посьпехаў, якія на гэтым шляху дасягнулі за апошнія годы. Калі-ж утрыманьне трусоў у хлеўчыках можа чарадавацца з часовым прабываньнем іх на волі ў загоне, дык гэта толькі садзейнічае здароўю і пасьпяховаму разьвіцьцю ўтрымліваемых трусоў.

Для звычайнага разьвядзен ня трусоў ужываюць галоўным чынам клеткі. Клеткі павінны ставіцца так, каб іх дзьверцы выходзілі на поўдзень або на ўсход. Гэткім расплянаваньнем клетак мінуецца раптоўнае хістаньне тэмпэратуры і ўплыў студзёных скразьнякоў.

Пры пабудове клетак трэба памятаць наступныя асноўныя правілы: 1) Клетка павінна быць прасторнай 2) Яна павінна мець вольны сток для мачы. 3) Клетка павінна мець таксама вольны доступ сьвета і паветра, у яе зусім не павінны пападаць скразьнякі.

### Кармленьне

Трусы здольны добра ўсвойваць кармы. Усякія расьлінныя адкіды гаспадаркі, сада і палёў служаць для іх харчамі. Для поўнага разьвіцьця трусоў неабходна дадаваць, апроч зялёнага корму, таксама і некаторую колькасьць сільных кармоў, што асабліва адносіцца да сярэдніх і буйных пород трусоў, тады як дробныя пароды трусоў (асабліва ўлетку) добра разьвіваюцца і на адным зялёным карму. Наогул, можна сказаць, што прапорцыя бялкоў да угляводаў павінна быць як 1 : 6, набат як 1 : 9, за выключэньнем самцоў у часы злучкі і самак да часу цяжарнасьці і кармленьня маладняку. За гэтыя пэрыяды паказаная прапорцыя павінна зьмяніцца на карысьць павялічэньня дачы бялковых харчоў.



Улетку зялёны корм, а ўзімку добрае лугавое сена складаюць аснову ўсяго кармленьня трусоў. У дрэннае надвор'е зялёны корм можа быць заменен агароднымі адкідамі ў выглядзе капустнага ліста і бацьвіньня гародніны. Узімку зялёны корм замяняецца караньплодамі: морквай, сахарнымі або кармавымі буракамі, бульбай, шалухой бульбы, прычым як бульба, так і яе шалуха скармліваецца ў запараным выглядзе. Траву канюшыны трэба даваць з вялікай асьцярогай і пачынаць з невялікіх дач, бо яна лёгка выклікае ўздуваньне жывата. З хлебных злакаў лепшымі зьяўляюцца авёс, ячмень і нават кукуруза.

Галоўнае кармленьне павінна ўтварацца ўначы, бо трусы зьяўляюцца начнымі жывёламі і паядаюць большую частку карма галоўным чынам уначы, потым раніцай.

Што датычыцца пытаньня, дзе лепш трымаць клеткі з трусамі, то практыка паказала, што лепш за ўсё ўстанаўляць клеткі на двары ў саду пад навесам, які мае крышу і адну глухую сьцяну з дошак, бо трусы лепш пераносяць холад, чым сьпякоту, што асабліва адносіцца да трусоў, якія гадуюцца на мех. Для захаваньня клетак ад дажджу і сырасьці крыша навесу павінна быць прыблізна на мэтр даўжэй ва ўсе бакі.

## Злучка трусоў

Як агульнае правіла, злучка трусоў утвараецца звычайна ўвесну пасьля таго, як трусы выліняюць. Хоць за апошні час адзначана пры разьвядзеньні штучных парод, што атрыманае ад зімняй злучкі патомства мела больш густую шэрсьць. У якасьці племянных жывёл дапускаюцца выключна ўпаўне дарослыя і здаровыя экзэмпляры з яскрава выяўленымі адзнакамі сваёй пароды або рознавіднасьці.

Пры племянным трусаводзтве неабходна саблюдаць расавыя асаблівасьці. Ніколі ня трэба дапускаць да злучкі трусоў з тымі ці іншымі недахопамі, а наадварот, старацца зьнішчаць вызначаныя ў адным экзэмпляры недахопы найлепшымі якасьцямі другога.

## Хваробы

Трусы часта хварэюць на розныя хваробы, з якіх найбольш часта сустракаюцца наступныя:

1) Прастуда: а) звычайная прастуда. Трусы пры гэтым часта чхаюць, зьяўляецца ўспаленьне сьлізістай абалонкі наздрэй, з якіх вылучаецца спачатку жыдкая, а потым больш густая сьлізь. Прычынай такога захварэньня зьяўляецца скразны вецер, пыл і неправетраныя клеткі. Лячэньне складаецца з перамены памяшканьня на больш цёплае і сухое з добрай подсьцілкай. Карысна таксама прамыўка наздрэй 2 проц. расчынам борнай кіслаты або перакісьсю вадароду. б) Злаякасны насмарк, які лёгка становіцца ўзбудзіцелем кокцыдіоза, трусавой чумы і захварэньня сухотамі. У падобных выпадках усякае лячэньне становіцца непатрэбным і хворых трусоў лепш зьнішчыць, пасьля чаго ўтвараецца шчыльная дэзінфэкцыя клетак, ясьляў і кармушак.

2) Мыт—часта „дзіцячая хвароба“ зьяўляецца часта ў выніку вельмі раньняга адыманьня, але часта і з прычыны недобраякаснага корму. Характэрнымі адзнакамі зьяўляецца вылучэньне сьлізы. Лячэньне зьяўляецца ў акунаньні мордачак захварэўшых трусоў на некалькі сэкунд у 5 проц. расчын квасцоў і абціраньня чыстай трапачкай.

3) Узьдуцьце жывата. Гэтым хваробам падвергнуты галоўным чынам маладняк. Адзнакамі зьяўляецца ўздуты жывот і няру...масьць тру... . Прычынай служыць утварэньне газаў у жываце і кішэчніку ў асаблівасьці пасьля кармленьня маладой канюшынай або пры раптоўным пераходзе з сухога карма на зялёны. Лячэньне можа мець посьпех толькі спачатку хваробы і заключаецца ў наступным: асьцярожны масаж жывата, лыжка рыцыны ва ўнутр або малако з 2-3 каплямі нашатыру. Калі прапусьціць першапачатковую стадыю, дык праз некалькі гадзін наступае сьмерць захварэўшых трусоў.

2) Кокцыдзіоз. Адзнакі гэтай хваробы наступныя: слабы апэтыт, хуткае пахуданьне, мыт, цяжкае дыханьне, мутныя вочы, вылучэньне гною. Пры прогрэсуючым захварэньні наступаюць сударгі, за якімі наступае вельмі хутка сьмерць. Захварэўшых трусоў неабходна па магчымасьці хутка зьнішчыць і шчыльна прадэзінфэкаваць клеткі, ясьлі і кармушкі.

5) Трусовая чума. Тут адзнакамі зьяўляюцца: частае дыханьне, густыя жаўгаватыя вылучэньні з ноздраў, сільнае ўспаленьне сьлізістых абалонак у насу, адсутнасьць апэтыту, пасьля чаго наступае сьмерць. Лячэньне зьяўляецца зусім не патрэбным. Гэта хвароба вельмі заразіцельная і неабходна вельмі шчыльная дэзінфэкцыя.

6) Сухоты. Узбудзіцелем сухот зьяўляюцца выключна сухотныя палачкі. Адзнакі наступныя: вылучэньне гною з носу, частае дыханьне, завостраньне мордачак у захварэўшых трусоў, хуткае пахуданьне, у пачатку хваробы яшчэ відаць павышаная палавая дзейнасьць. Усякая лячэньне не патрэбна. Захварэўшых трусоў трэба хутчэй зьнішчыць.

7) Мыт (панос). Кал трусоў становіцца жыдкім іванючым. Хвароба ўзьнікае ад раптоўных пераходаў ад адных харчоў на другія, ад нядобраякасных харчоў. Лячэньне складаецца з наступнага: хворых трусоў бяруць у сухія і цёплыя памяшканьні, даецца сухі корм (хлеб, зерне і сена), замест піцьцёвай вады даюцца мучныя баўтушкі. На першы час ня трэба даваць вяжушчых сродкаў, а наадварот, з мэтай ачысткі жывата і кішэчніка даюць 1—5 гр. глаўберавай солі або 1 чайную лыжку рыцыны. Потым можна даваць і вяжушчыя сродкі (бярозавыя, лазовыя або дубовыя веткі). У выключных выпадках даецца опіум (3—5 капель на адну чайную лыжку).

8) Запор. Прычыну гэтай хваробы трэба шукаць выключна ў празьмернай дачы сухіх кармоў. Лячэньне зьяўляецца ў перамене корму. Даваць моркву, шмат вады і ў крайнім выпадку 1 гр. глаўберавай солі або чайную лыжку рыцыны.

9) Успаленьне вачэй. Тут неабходна штодзень прамыўка вачэй адварам рамашкі або 2 пр. расчынам борнай кіслаты.

10) Кароста і парша. Узбудзіцелем зьяўляецца заўсёды клешч, прычым зьяўляюцца раней за ўсё на лапках, мордачцы, на лбу і на іншых мясцох струпы, пасьля чаго выпадаюць валасы. Лячэньне наступнае: месцы, дзе зьявілася кароста, намазваюць зялёным мылам і прамываюць цёплай вадой і пад канец змазваюць крэалінавай маззю, што паўтараецца кожныя 2—3 дні. Адначасна ўтвараецца таксама і шчыльная дэзінфэкцыя.

# ПАЛЯЎНІЧАЯ ПРАКТЫКА

## Белая курапатка і паляваньне на яе

*(Працяг)*

Наседка, з прычыны небясьпекі, застаецца на гнязьдзе, як мага далей. Спачатку яна нібы і не заўважае набліжэньня небясьпекі і пакідае месца, калі стаіць непасрэдна ў самага гнязда, далучаецца да самца і абодвы пачынаюць лісьлівіць як-бы адвесьці ад гнязда. Калі ўдаецца манэўр, адлятае і недалёка садзіцца.

Калі ўсё абстаіць добра, дык цыпляняты вылупліваюцца ў канцы мая, або ў пачатку ліпеня.

Прыгожанькія шустранькія цыпляняткі, пакрытыя жоўта-шэрым пухам. У першыя-ж дні добра бегаюць і па мокрым моху і па сухім, пакрытым ганібольлю. Усе ў пушку, пёрышкі толькі ў крылышках, а як шпарка і ўсе разам узьлятаюць яны. „Цюк, цюк, цюк“,—узьляцеўшы ўсе разам, закрычаць трывожна і панясуцца над сасьняком, каб зьнізіцца ўсёй сям‘ёй, праляцеўшы сажон 70—80.

Матка сьледуе заўсёды за дзецьмі, выключаючы тых выпадкаў, калі бывае вельмі напалоханая раптоўным зьяўленьнем чалавека. Толькі што напалоханая, яна пачынае адводзіць вочы свайго ворага вядомымі ўлоўкамі: храмаючы, пакачваючыся яна перад сваім ворагам сьмела прыносіць сябе ў ахвяру; калі вораг дастаткова адведзен, яна падымаецца і ляціць за цыпляняткамі, знарок пралятаючы далёка міма іх і спускаецца часта зусім у супроцьлеглым баку, куды накіраваўся бацька.

Белая курапатка ў вышэйшай ступені ўлюблёная ў сваю сям‘ю матка. Увосень 1929 г. быў такі выпадак. Сабака застыла на мёртвай стойцы ў густым нізкарослым сасьняку. У маіх руках толькі што падняты дарослы цыплёнак, паранены стрэлам на ранейшай стойцы. вось, як толькі гэта цыплянё моцна крыкнула, у



той-жа момант адважна кінулася самка і села на тры крокі ад нас... (я быў з прыяцелем).

Калі нечакана наткнуцца на вывадак з сабакам, дык і самец дапамагае адвесьці ворагаў і заблытаць сьляды між тым, як у іншыя часы ён заўсёды сьпяшаецца хутчэй уляцець.

*Моцна і нечакана напалоханая* наседка ляціць проста насустрач парушыцелю спакою, апускаецца даволі далёка ззаду яго і зараз-жа бяжыць, не пакідаючы даваць заклікі дзецям аб небясьпецы; потым зноў падымаецца, аблятае вялікім колам і падае на зямлю недалёка ад іх. Цыпляняты ў гэты час разьбягаюцца ва ўсе бакі, або прыгінаюцца да зямлі ці моўчкі крадуцца, каб злучыцца з маткай.

Калі яны спалоханы адначасна з бацькамі, дык пачынаюць праз 30—40 хвілін памаленьку даваць свой голас „цьюк, цьюк". На гэтыя заклікі дарослыя, калі небясьпека мінавала адгукаюцца, каб сабраць усіх да сябе.

Чым больш цыпляняты, тым асьцярожней і менш сьмелы становяцца бацькі. Калі-ж яны дасягаюць поўнага ўзросту, дык старыя самец і самка рэдка ўжо падпускаюць да сябе паляўнічага на адлегласьці стрэлу. У палове або ў канцы жніўня вывадак дасягае поўнага росту. Яшчэ тыдні 3—4 ён трымаецца блізка каля гнязда, а потым, у канцы верасьня ці пачатку кастрычніка—злучаецца з іншымі вывадкамі і становяцца да таго асьцярожнымі, што амаль ніколі не дапускаюць да ўдалага стрэлу. Паляваньне з лягавай сабакай спыняецца.

## Што губіць белую курапатку

Плоднасьць белай курапаткі здавалася-б павінна гаварыць за яе шматлікасьць, аднак у сапраўднасьці прыходзіцца канстатаваць нажаль факт: нашы паўночназаходнія і заходнія балоты, наадварот, з кожным годам становяцца ўсё бядней і бядней дзічай.

*Прычын гэтаму шмат, а галоўная—асаблівасьць самай курапаткі.* Калі ня кожны паляўнічы ведае асаблівасьць гэтай птахі, дык звычайны абывацель гораду і нават вёскі, ня ведае і нават ня чуў аб гэтай птасе. Таму ўвагу нашага паляўнічага я спыню асабліва на гэтай частцы.

Надзеўшыся ў белае пяро белая курапатка з мохавых балот перасяляецца ў хмызьнякі і на ваколіцы сасновага лесу з дробнымі хмызьнякамі і брусьнічнікам і жыве там усю зіму. Вясной, як толькі зімні пэйзаж балот пачне зьмяняцца і чуць пачнуць віднецца з-пад сьнегу вяршушкі купін, белая курапатка вяртаецца на балота, разьбіваецца на пары і пачынае такаваць. Пры гэтым трэба заўважыць, што белая курапатка асобных такавішчаў ня мае, ніколі не такуе скопам [1]), як, напрыклад, чарнышы або дупялі і таму між самцамі ня бывае боек з-за самкі, хоць самцы з запалам ідуць на зоў самкі, кідаюцца туды. Гэта і губіць іх.

Браканьер, убачыўшы слабасьць птахі, добра навучыўся вабіць, як самка: „кням, кням, кням". Для гэтага двума пальцамі правай рукі ён сьціскае нос і ўтварае гукі, падпарадкоўваючыся пад голас самкі.

---

[1]) Скоп—ток у адным месцы па некалькі пар.



Увечары, галоўным чынам раніцай на зорцы ідзе на балота, сядзіць дзе-небудзь каля сасонкі і пачынае зваць.

Пачуўшы зоў, самец (а чуе ён далёка) зараз-жа адкажа сільным характэрным трэскам, з шматлікімі каленамі, перадаць які цяжка, трэба чуць, і ў два-тры падлёты такуе ўжо на вачох здрадніка-браканьера і сьлепа лезе пад самую рулю стрэльбы.

Разам з ім прылятае і адданая яму самка і часта абодвы гінуць ад аднаго стрэла. Нават сама самка ідзе на зоў самкі.

На балоце ціха, ні якага паляваньня няма і між тым вы чуеце стрэлы на зорцы і зьдзіўляецеся. Хто знаём з слабасьцю гэтай птахі—той ведае, што гэта за стрэлы. Мне імкнуліся давесьці, што бачыць прычыну зьмяншэньня белай курапаткі ў гэтым няма падставы. „перш-наперш з сотні выпадкаў толькі магчыма ў дзесяці на грубое каўканьне падляціць пад стрэльбу самец. Здалёк ён вельмі ахвотна адгукнецца, зробіць пералёт, але на блізкай параўнача адлегласьці добра пачуе розьніцу ў гуках браканьера і характэрным траскатаньнем самкі белай курапаткі і ўляціць. Па-другое, калі і ёсьць артыстыя, якія падрабляюць голас самкі, дык ва ўсякім выпадку большасьць іх... для чалавечага вуха“.

Відаць аўтар вывеў сваё заключэньне з раёну сваіх назіраньняў, дзе ня было добрых артыстых гэтай справы (інакш, чым растлумачыць) і то далёка няверна; перш-на-перш абмануты самец улятае моўчкі, а па-другое, падробліваць голас самкі вельмі лёгка і па-трэцяе,—калі такіх артыстых у тым ці іншым раёне няма, гэта павінна толькі радаваць паляўнічага, тым ня менш паляўнічы павінен ведаць гэту слабасьць птахі, каб мог змагацца з браканьерствам.

Браканьер, вядома, не задумваецца, як не задумваецца ён наогул аб заўтрашнім дні, што страляючы вясной нават адных самцоў, ён пазбаўляе вывадак мець другога выхавальніка, бацьку, а забіўшы самку, апустошвае балота адразу на 15—20 штук прыплоду. Паляўнічы часта ламае галаву: вялізарнае балота, добрыя месцы, надзейны сабака, а курапатак няма. Шукае прычыну і знаходзіць: завёўся „спэц“.

Браканьер не адным гэтым спосабам губіць курапатак, ён у канцы лета яшчэ душыць іх петлямі.

Белая курапатка, як цецярук і рабец, любіць пажывіцца ягадамі. Для прыманк, заціскаюць ягады брусьніцы ў палачкі і ўтыкаюць у мох у самай настаўленай пятлі; курапатка, убачыўшы брусьніцы, пачынае бегаць навакол, каб дастаць ягады, пападае ў пятлю і гіне. Петлі ставяць ня толькі дарослыя, якія лічаць сябе паляўнічымі, але і падросткі, якія нічога агульнага з паляваньнем ня маюць. Белая курапатка, як ужо сказана, узімку мяняе сваё апярэньне.

З канца кастрычніка яна паступова бялее і к сьнегу надзяваецца ў зусім белае апярэньне. Здараецца, што ўвосень зямля доўга не пакрываецца сьнегам, а курапатка пабялела. Тут ёй зноў няма ратунку: з аднаго боку паляўнічы б'е ў вузёрк, зусім так як выліняўшых пабялеўшых зайцоў, з другога—бязьлітасна зьнішчаюць белую курапатку яшчэ не ўляцеўшыя каршуны-цецяравятнікі.

Але ўсё гэта чыста натуральныя, нямінуючыя прычыны, якія перашкаджаюць памнажэньню белай курапаткі, ня могуць прычыніць столькі шкоды, як паказанае браканьерства.

„Охотьтесь, стреляйте.
А не истребляйте,
Везде размножайте,
Пернатых, пушных...“

Сапраўды паляўнічы - гаспадар павінен ведаць гэты паляўнічы гімн ня толькі на словах, але і праводзіць яго ў жыцьцё.

**Лялін.**

*(Працяг будзе)*



# ПАЛЯУНІЧЫЯ СТРЭЛЬБЫ

## Ці існуюць стрэльбы з зусім роўнамерным боем

У адносіне кучнасьці, вострасьці, дальнабойнасьці і, галоўнае, роўнамернасьці боя стрэльбы маюць уплыў наступныя факты, апроч самае стрэльбы, а менавіта: порах, пыжы як на порах, так і на шрот, капсулі, сіла баявых спружын, гільзы і шрот. Да ацэнкі першых шасьцёх фактаў, пры выбары іх, паляўнічыя адносяцца ўсё-ж такі з большай ці меншай доляй увагі, да ацэнкі 7-га фактара—шроту прыбягаюць толькі адзінкі, іншыя бяруць шрот, які ім даюць, рэдка пытаючыся вымагаць так званы „калёны“, г. зн. цьвёрды, чым і канчаецца ў большасьці выпадкаў усе іх заботы аб якасьці шроту.



Між тым якасьць шроту і мае перашкодны ўплыў на якасьць стрэлу ва ўсіх адносінах і я асабіста жадаў-бы страляць з кепскай стрэльбы добрым шротам, чым з лепшай стрэльбы на сьвеце дрэнным шротам. Пры вінтовачнай і артылерыйкай стральбе ня годна ні вінтоўка, ні пушка, калі снарады для іх кепскія. Чаму павінна быць іншае пры стральбе шротам?

Я павінен агаварыцца, што пад выразам „якасьць шроту“, я маю на ўвазе якасьць яго вырабу з сапраўднага чыстага сьвінцу і толькі, гаварыць-жа аб тым, што шрот кепскі па матар'ялу—бескарысна, бо паляўнічы сам выправіць тут нічога ня можа.

Ні ў якіх кнігах па пытаньню аб шротавай стральбе, ні нават у самаго Журнэ, не даецца параўнаўчых вынікаў бою шротам ідэальным, бою шротам сярэдніх якасьцяй і бою самым горшым. Думаю, што такія вопыты здаваліся дасьледчыкам вельмі крапатлівым ці непатрэбнымі і вось пушчана ў сьвет думка: „няма стрэльбы з бязумоўна-роўнамерным—ад стрэла да стрэла—боем шротам“.

У сапрауднасьці-ж стрэльбаў, якія маюць раўнамерны бой ня мала сярод адзіночак, не гаворачы ўжо аб „парных“, якія ў даваенны час прадаваліся ў Расіі парамі ў цане ад 400 руб. і вышэй. Заўэр дастаўляў такія стрэльбы-адзіночкі за прыплату да асноўнай цаны ў 50 марак (25 руб.).

Хістаньні ў кучнасьцях прыпісваліся (ды і цяпер прыпісваюцца) стрэльбе—дакладней сьвідроўцы яе руляй, пораху, часткай пыжам на порах (а не на шрот, што ёсьць на справе і што можа быць будзе прадметам асобнага артыкулу), а шрот прынімаўся як велічыня сталая, якая не адносіцца да яго якасьці.

У сапраўднасьці-ж справа абстаіць далёка ня так. Зусім чорны порах, як і нітра-порах, пры выработцы, якая ўпаўне ўстанавілася, з добрых гатункаў ня могуць даваць колькі небудзь значных хістаньняў кучнасьці ў шэрагу стрэлаў на-




Схэматычны малюнак прылад для пракаткі шроту. 1) Выгляд чашкі зьверху. 2) Выгляд чашкі ў разрэз. 3) Выгляд катальнага круга зьверху. 4) Выгляд катальнога кругу ў разрэзе.

боямі з аднэй, напрык., каробкі пры роўных іншых умовах набіўкі. Стрэльба як велічыня найбольш сталая з усіх фактараў стрэлу, можа быць добра, сярэдня і кепска, але с а м а п а с а б е ня можа прынесьці ў мішэнь адным стрэлам 240 шроцін, а ў другім 100 шроцін—зноў-жа пры адзінакавых зарадах і набіўцы іх.

Пыжы на порах паляўнічаму пры жаданьні ня так ужо цяжка падабраць (з лепшых гатункаў) да поўнай адпаведнасьці па вазе, таўшчыні, шчыльнасьці, нават да адзінакавай—да вядомай ступені — пругкасьці і абсальваньні.

Пыжы на шрот можна ўзяць з такога матар'ялу, як пробка або мяккі тонкі кардон, што ўплыў іх на якасьць осыпі будзе зусім не заметны.

Вось з капсулямі нават аднаго гатунку справа ўжо шмат горш. Пры масавым вырабу іх выбухная істота ня можа, вядома, узьвешваецца для кожнага экзэмпляру — і розьніца ў яго колькасьці можа служыць пры-

чынай ровнай сілы выбуху пораха і ровнай хуткасьці яго гарэньня. Адсюль неаднолькавыя вынікі бою стрэльбы пры ўсіх іншых аднолькавых умовах набіваньня патронаў. Гэта і дае падставу і зараз прытрымліваюцца думкі, што няма стрэльбаў з роўнамерным боем нават людзям, якія складаюць падручнікі па паляваньню, па прыстрэлцы і г. д.

Чорныя порахі ў шмат разоў лепш адчуваюць якасьць і сілу пістонаў і ў свой час яскрава давялі, што яны даюць найлепшы па роўнамернасьці бой. Разглядзіце ўважліва даданую да гэтага табліцу-зводку кучнасьцяй стрэльбаў, атрыманых рэдакцыяй ангельскага паляўнічага часопісу „Фільд“ і надрукованых у кнізе В. Грынера „Ружье“, і вы ўбачыце навочна наколькі малыя хістаньні кучнасьцяй, дзякуючы ўжываньню пры вопытах лепшага тады ў сьвеце шроту „Чиллед-Шот“, лепшых пыжэй Элея і лепшага пораху.

І дзіўна, што як у сучасным, так і дарэвалюцыйным паляўнічым друку ніхто з дасьледчыкаў бою шротам не „дагледзеў“ гэтыя фільдаўскія даныя і не ацаніў іх значан ня, ня гледзячы на тое, што досьледы „Фільда“ ў справе паляўнічае зброі лічацца найбольш вернымі і добрасумленнымі.

Але ці ня яскрава, што вынікі вопытаў „Фільда“ маглі быць і яшчэ роўнамерней, калі-б шрот ужываўся яшч больш удасканалены, чым „Чиллед Шот“? Наўрад ці можна знайсьці сярод цэнтнера самага лепшага шроту хаця б адзін кілёграм зусім сфэрычных, зусім роўных між сабой па форме, аб'ёму і шчыльнасьці



шрацін. Па гэтаму ў кожным набоі заўсёды і бязумоўна ёсьць той ці іншы процант шрацін рознай вагі, рознай формы і шчыльнасьці, неадзінакавай вагі, шрацін ня поўнасьцю сфэрычных. А чым больш шрацін, якія ўхіляюцца ад нормы, тым больш няроўным будзе бой стрэльбы! Упаўне магчыма, што нават адна шраціна, дэфэктыўная па аб'ёму можа мець уплыў на якасьць осыпі, бо яна можа нарушыць правідловае разьмеркаваньне шрацін у сваім шэрагу, а гэтым самым і ў вышэйляжачых шэрагах.

Або—некалькі цяжкіх шрацін, папаўшых у ніжнія шэрагі набою, пасьля стрэлу паляцяць з прычыны сваёй вагі хутчэй за шраціны верхніх шэрагаў, заштурхнуць частку іх з простага напрамку і самі ад гэтага ўхіляцца ў бок. Ад гэтага осып будзе горш за тую, якая-б атрымалася пры роўнай вазе ўсіх шрацін набою.

Ці варта гаварыць аб няправільнасьці палёту шрацін няправільнай формы, аб адставаньні шрацін лягчэйшых, аб порчы пры ходзе ўнутры рулі шрацін меншай шчыльнасьці.

І так, чым лепшы шрот, тым лепшая якасьць осыпяй, лепшы агульны бой стрэльбы. Гэта было найлепш вядома паляўнічым і раней, але ў якой меры лепш? Адказ на гэта пытаньне знойдзе чытач ў прыкладзенай да гэтага табліцы з данымі маіх вопытаў, у дакладнасьці якіх можаце ўпэўніцца, прачытаўшы тлумачэньні да табліц.

Тым, хто пажадаў-бы праверыць даныя маіх вопытаў скажу, што нельга спадзявацца атрымаць максымум роўнамернасьці бою нават пры найлепшых папкавых гільзах з прычыны хаця і найбольшай розьніцы ў іх каналах у выніку неаднолькавай шчыльнасьці іх папкі. З больш шырокага каналу гільзы пыж пойдзе пад іншым дауленьнем парахавых газаў, больш вузкага—пад іншым, а адсюль розьніца ў бої. Чуць слабей, чуць мягчэй кардон гільзы—і канал яе, пад дауленьнем газаў пашырыцца больш нормы і стане ў папярэчніку больш, чым канал рулі, ад чаго зноў-жа вынік стрэлу будзе хужэй, чым пры поўнай роўнасьці каналаў рулі і гільзы. Медныя гільзы, тоўстыя ці тонкія, але ўжо ня раз стрэляныя ў той-жа стрэльбе, ад чаго іх сьценкі пашырыліся як раз па каналу камер, уяўляюць сабой як фактар стрэла велічыню сталую, а таму якасьць стрэлаў пры іх будзе раўней—гэта назіраецца і тады, калі стрэльба зроблена пад папковую гільзу, а мы карыстаемся меднымі.

У гэтым апошнім выпадку бой стрэльбы, вядома, будзе ніжэй, чым з папкавых гільз, але ўсё ж такі будзе роўнамерней ад стрэлу да стрэлу.

Некаторыя папкавыя гільзы нашага вырабу яшчэ і таму незаўсёды могуць забясьпечыць сталасьць бою, што іх накаваленкі трохзубцы ня так ужо дакладна разьмеркаваны па папярэчніку пістона, чаму ўдар байка ня ў самы цэнтр накаваленкі дасьць менш энэргічны выбух істоты пістона і значыць менш сільны і скоры выбух пораха з паніжэньнем якасьці стрэлу. Вядома і ў медных гільзах запальныя дзіркі могуць быць не аднэй велічыні, ад чаго таксама павінна ўтварацца зьмена ў сіле і хуткасьці ўспламяненьня парахавых набоеў, а значыць і вынікаў стрэлу. Але гэта ўжо справа паляўнічага давесьці да аднэй меры хаця-б іх прасьвідраваньнем.

У папкавых гільзах пры карыстаньні нітра-порахамі неабходна пістоны выцюканьнем пашырыць абавязкова запальныя дзіркі, потым спачатку ўстанаўляць пра-



вільна па парэчніку гільзы накаваленкі і ўстаўляць тады пістоны. А ўперад за ўсё не забываць аб ачыстцы дна гільзы ад астачы папяровай масы, якая бывае цэлай шапкай сядзіць на капсульным гнязьдзе, зусім затыкаючы запальныя дзіркі. Невядома, ці прымаліся ўсе неабходныя папераджальныя меры тымі „дасьледчыкамі" шротавай зброі, якія кажуць „няма стрэльбаў з роўнамерным боем" і „нават 10 чарговых стрэлаў не пакажуць сапраўднага бою стрэльбы".

Не прэтэндую на тое, што я паказаў з дастатковай падрабязнасьцю на ўсе фактары, якія робяць уплыў—пры аднэй і тэй жа стрэльбе—на якасьць стрэлаў (бо для ацэнкі ролі кожнага фактару трэба пісаць асобны артыкул), але-ж ўсё-ж думаю, што дастаткова і сказанага, каб стала яскравым становішча: У няроўнамернасьці, у нясталасьці боя менш за ўсё вінавата стрэльба.

Што-ж больш за ўсё вінавата ў гэтым? Перш-на-перш—сам паляўнічы, па-другое—пыж на шрот, па-трэцяе—якасьць шроту.

Ці можна аднак, самому паляўнічаму палепшыць якасьць шроту?

Бязумоўна. Для гэтай мэты трэба сартаваць шрот па велічыні зерняў магчыма дакладней і пасьля гэтай апэрацыі пракатваць для наданьня шрацінам найбольшай сфэрычнасьці і, галоўнае, большай цьвёрдасьці і шчыльнасьці. Пры гэтым сфэрычнасьць шрацін можа быць атрымана такая, якая недаступна ніякаму шроту лепшых фабрык. Я-б не сказаў, што ўсё гэта вельмі крапатліва, і каму патрэбен верны, добры стрэл, той знойдзе час, каб зрабіць даступныя яму палепшаньні ў бoi стрэльбы, не псуючы на гэта ні часу, ні матар'ялу, ні грошы на „прыстрэлку стрэльбы па сэрыях".

Для сартаваньня шроту трэба мець невялікую скрынку з устаўнымі пераменнымі сецямі з дроту або бляшанымі пласьцінкамі з прабітымі буйнымі дзіркамі патрэбных дыямэтраў. У скрынку ўстаўляюцца тры-чатыры сіты або пласьцінкі такім чынам, каб верхняе сіта было з найбольшымі дзіркамі, ніжняе з самымі дробнымі і тады сартаваньне шроту пойдзе і хутка і пасьпяхова. Для пракаткі шроту лепш за ўсё прылада (з чыгуна або жалеза), малюнак якой даецца вышэй. Пасьля пракаткі трэба зрабіць паліроўку шроту, для чаго патрэбна толькі звычайная пляшка. Як бачым, усе прыборы зусім нескладаныя, але з прычыны вельмі кепскага сартаваньня фабрычнага шроту неабходныя.

Увага да табліцы 2-й: 1) Набоі пораху і шроту адвешаны дакладна на вазе. 2) Пыжы на порах і шрот, а таксама пракладкі падабраны для кожнай сэрыі на гатунак, вагу, таўшчыню і пругкасьць. 3) Сартаваньне шроту роблена праз сіта і з дадатковым ручным адборам найбольш дэфэктыўных шрацін. Сфэрычнасьць шрацін даведзена да магчымай дакладнасьці і магу думаць, што наўрад ці хто з дасьледчыкаў боя шротам карыстаецца лепшым па сфэрычнасьці шротам. 4) Медныя гільзы задаволены былі ўстаўкамі, кардоннымі цыліндрамі па спосабу, паказанаму мною ў артыкуле „Дикие выстрелы" ў № 4 „Урал. Охотн." за 1926 г. 5) Папкавыя гільзы, сінія, Маскоўскага заводу, па таўшчыні іх папкі не падбіраліся, а менавіта ў мэтах параўнаньня



| Сорт і якасьць шроту | Калібр стрэльбы | Вага пораху | Вага шроту | Вага шроту па англ. ліку | Лік драбін у зарадзе | Лік драбін у кругу 30″: Вышэйшы | Лік драбін у кругу 30″: Ніжэйшы | Лік драбін у кругу 30″: Сярэдні | Лік стрэлаў у серыі | Розьнасьць паміж сярэдняй і ніжэйшай кучнасьцю: Абсалютная | Розьнасьць паміж сярэдняй і ніжэйшай кучнасьцю: У % да ліку драбін у зарадзе | Сярэдняя кучнасьць у круг 30″ у % | Сорт гільз | Сорт пыжоў на шрот | Сорт пыжоў на порах | Якая стрэльба, сьвярдлоўка руляў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | чорн. | гр. | гр. | | | | | | | | | | | | |
| Мяккі, Маскоўск. зав. несартаваны. | 16 | 4,9 | 28,35 | 5 | 200 | 126 | 92 | 109 | 10 | 17 | 8,5 ⁰ | 54,5 ⁰ | Сінія гільзы Маскоўскага заводу | Вельмі мяккага картону з папіросных каробак каля 1 м/м. таўшчыні | „Садачныя" Уралахоты | Заўэра „Ястрэб", палучок правы |
| Таксама, але пракатны . . . . | 16 | 4,9 | 28,35 | 5 | 200 | 150 | 136 | 143 | 10 | 7 | 3,5 ⁰ | 71,5 ⁰ | | | | |
| Мяккі, несартаваны, Чалябін. зав. | 12 | 6 | 33 | 3 | 160 | 130 | 112 | 125 | 10 | 13 | 10,4 ⁰ | 78,9 ⁰ | | | | Заўэра „3 кольца", чок левы, даваенный цаны ў 165 р. |
| Таксама, сартаваны, пракатны . . | 12 | 6 | 33 | 3 | 160 | 152 | 142 | 147 | 10 | 5 | 3,1 ⁰ | 91,6 ⁰ | | | | |
| Цьвёрды, несарт. на Эвест. зав. . | 12 | 6 | 32 | 6 | 320 | 289 | 212 | 251 | 12 | 39 | 12,2 ⁰ | 77,1 ⁰ | | | | Такая самая стрэльба, чок левы |
| Цьвёрды. вельмі добра сартаваны, невядом. заводу . | 12 | 6 | 32 | 6 | 320 | 303 | 282 | 293 | 10 | 9 | 2,9 ⁰ | 91,6 ⁰ | | | | |
| Таксама, сартав. | 12 | „Глухар" 2,25 | 32 | 6 | 320 | 301 | 293 | 296 | 10 | 3 | 0,95 ⁰ | 95,6 ⁰ | | | | Такая самая стрэльба, чок правы |
| Мяккі, несартаваны, невядом. зав. | 12 | „Глухар" 2,25 | 32 | 6 | 320 | 239 | 176 | 201 | 10 | 25 | 7,8 ⁰ | 62,6 ⁰ | | | | |
| Мяккі, несартаваны. Чалябін. зав. | 16 | „Сокал" 1,7 | 29 | „Б" | 100 | 74 | 58 | 68 | 6 | 10 | 10 ⁰ | 58 ⁰ | | | | Заўэра, Эстраб, чок левы |
| Ён жа сартаваны і пракатаны . . | 16 | „Сокал" 1,7 | 29 | „Б" | 100 | 90 | 83 | 86 | 6 | 3 | 3 ⁰ | 89 ⁰ | | | | |
| Цьвёрды, сартав. невядом. заводу . | 12 | „Сокал" 1,9 | 33 | 6 | 330 | 248 | 224 | 730 | 8 | 6 | 1,8 ⁰ | 70 ⁰ | Медзян. з устаўн. цыліндр. | | | |
| Такі самы шрот . | 12 | „Глухар" 2,3 | 35 | 6 | 350 | 278 | 258 | 267 | 12 | 9 | 2,8 ⁰ | 72,7 ⁰ | | | | Заўэра, новае мадэль 2, левы чок |
| Такі самы шрот . | 12 | „Сокал" 1,9 | 33 | 6 | 330 | 270 | 241 | 257 | 8 | 16 | 4,57 ⁰ | 69 ⁰ | Сінія Маскоўскага заводу | | | |
| Такі самы шрот . | 12 | „Глухар" 2,3 | 35 | 6 | 350 | 307 | 221 | 260 | 39 | 21 | 6,00 ⁰ | 77,6 ⁰ | | | | |
| Ангельскі шрот „Чилед-Шот". Несартаваны . Цьвёрды . . | | „Сокал" 2 гр | 34 | 6 | 325 | 253 | 222 | 237 | 6 | 15 | 4,31 ⁰ | 73 ⁰ | Гільзы, машын. знарадкі Варшаўск Т-ва паляўнічых | Картон. ў 1,5 м. м. таўшчыні | Лепшыя белага лямцу | Правы чок (Стрэльба садачнага Заўэра ў 9¹/₄ ф. вагі, каля 225 р. (даваенныя цэны)) |
| | | „ 2 гр | 34 | 6 | 325 | 244 | 189 ¹) | 224 | 6 | 55 | 10,7 ⁰ | 70 ⁰ | | | | Левы чок |
| | | „ 2,1 | 36 | 6 | 345 | 279 | 207 | 247 | 6 | 40 | 11,9 ⁰ | 71 ⁰ | | | | Правы чок |
| | 12 | „ 2,1 | 36 | 6 | 345 | 275 | 191 ¹) | 245 | 6 | 54 | 15,65 ⁰ | 71,6 ⁰ | | | | Левы чок |
| | | „Балісты" анг. 1,85 | 36 | 6 | 345 | 238 | 174 ¹) | 212 | 6 | 38 | 11 ⁰ | 61,4 ⁰ | Спапляльн. цынкавыя Элея | Картон. ў 2 м. м. таўшч. | Элея | Правы чок |
| | | 1,85 | 36 | 6 | 345 | 243 | 153 ¹) | 193 | 6 | 60 | 17,4 ⁰ | 56 ⁰ | | | | Левы чок |

¹) Ніжэйшыя кучнасьці, дзе адзначана атрымаліся толькі па адным стрэле, па астатніх 5 стрэлах ня ніжэй 217 шр. у ліст у квадраце 120 см., дзе быў начэрчаны круг у 75 см. у дыямэтры, папалі ўсе шраціны зарадаў.

| Парадкавы № стрэльбы, у якім яна зьмешчана ў кнізе В. Грынэра „Ружье,“ выд. 1887 г. | Калібр | Усе зарады чорнага пораху ў грам | № ангельск. шроту „Чиллед-Шотт“ | Усе зарады шроту ў грам | Колькасьць драбін у зарадзе | Лік драбін, папаўшых у круг 30 д. | | | Лік стрэлаў | Розьніца паміж сяр. і ніж. кучн. у кругу 30 д. | | % адносіны сярэдн. кучн. да ліку драбін у зар. | Сорт гільз | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | Найбольшы | Сярэдні | Ніжэйшы | | Абсалютная | У % | | | |
| Стрэльба 1-я . . | 12 | 7,06 | 5 | 35,41 | 272 | 217 | 205 | 197[1]) | 6 | 8 | 4 | 75,4 | Тонкія металічныя, пад якія і зроблены выпрабаваныя стрэльбы | [1]) Толькі адзін стрэл у 197 драб., астатніх ня ніжэй 200 драбін |
| „ 2-я . . | 12 | 6,17 | 5 | 35,47 | 272 | 218 | 211 | 206 | 5 | 5 | 2,33 | 7,66 | | Лепшая па роўнамернасьці осыпаў сэрыя |
| „ 3-я . . | 12 | 7,06 | 6 | 35,41 | 334 | 277 | 269 | 260 | 6 | 9 | 3,34 | 79,9 | | Толькі адзін стрэл у 260 драбін. Іншыя вышэй |
| „ 4-я . . | 12 | 7,06 | 6 | 35,41 | 337 | 273 | 267 | 259 | 6 | 8 | 2,6 | 79,0 | | 2 стрэлы ў 259 і 260 драбін, астатнія ад 269 і вышэй |
| „ 5-я . . | 12 | 7,06 | 6 | 35,41 | 337 | 304 | 282 | 263 | 6 | 19 | 6,34 | 83,4 | | 2 стрэлы ў 253 і 270 драбін, другія 278 і вышэй |
| „ 8-я . . | 14 | 5,73 | 6 | 31,3 | 304 | 227 | 214 | 204 | 10 | 10 | 4,12 | 74,7 | | 2 стрэлы ў 204 і 205 драбін, астатнія 209 і вышэй |
| Яно-ж | 14 | 6,17 | 6 | 31,3 | 304 | 245 | 231 | 219 | 12 | 12 | 5,25 | 76,0 | | 1 стрэл у 219 драбін, астатнія 223 і вышэй |
| Стрэльба 9-я . . | 16 | 5,33 | 6 | 28,35 | 270 | 203 | 193 | 180[2]) | 12 | 13 | 7 | 71,1 | | [2]) Ва ўсёй сэрыі толькі 2 стрэлы ў 180 і 183 драб., іншыя вышэй |
| 10-я . . | 20 | 4,88 | 6 | 28,35 | 270 | 209 | 194 | 184[3]) | 11 | 10 | 5,16 | 71,9 | | [3]) Ва ўсёй сэрыі 2 стрэлы ў 184 і 188 драб., іншыя вышэй |
| 6-я (садач.) | 12 | 6,61 | 6 | 31,3 | 304 | 251 | 224 | 155[4]) | 15 | 69 | 30,8 | 73,9 | | [4]) У сэрыі 2 стрэлы 155 і 168 драб. і ў 207 др., іншыя ня ніжэй 213 драб. |
| Садачная (Карвера) 7-я . . . | 12 | 7,06 | 9 | 35,41 | 337 | 270 | 238 | 197 | 6 | 41 | 17,2 | 70.5 | Папковыя | 1 стрэл у 197 драбін., астатнія 232 і вышэй |

Увага: Да гэтай табліцы ў кнізе В. Грынэра ёсьць тлумачэньне, што стрэльба № 7, належаўшая профэсыянальнаму стралку д-ру Карвер, была аднэй з найлепшых стрэльбаў таго часу, але і яна значна ўступала ў кучнасьці стрэльбам, зробленых для тонкіх мядзяных гільз, а таксама і ў роўнамернасьці боя. У Грынэра недастаткова ясна сказана, ці стрэльба № 6 „садачная“ была таксама пад тонкую медзяную гільзу ці пад папковую, хоць пры спробах з яе стралялі з медзяных гільз, ад чаго і магло атрымацца моцнае зьніжэньне кучнасьці, у 2-х стрэлах з сэрыі.

вынікаў бою пры іх з такімі-ж як пры медных гільзах—з устаўнымі цыліндрамі. 6) Шрот № 3 і 6 быў укладзен спэцыяльна для чокаў 16 калібра. 7) Усе пыжы ўстаўлены ў гільзы з адзінакавым націскам спружынным навойнікам „нитрорамер". 8) Папкавыя гільзы закручваліся дакладна на 5 мм. 9) На ўсіх парахавых пыжах былі пакладзены каліберныя накладкі з мяккага кардону таўшчынёй у $2^1/_2$ м. м. (каб мінуць унікаьня ў войлачны пыж шрацін). 10) Уся пробная стральба ўтворана ў адзін дзень пры 15°Р. 11) Пасьля кожнай сэрыі стрэльба чысьцілася стальной шчоткай з шкіпінарам для мінаваньня ўплыву сьвінцоўкі. 12) Мішэньню служылі 2 склееных лісты фармату вялікіх газэт і лепшае месца осыпі абводзілася рысай навакол у 76,2 см. у папярэчніку. 13) Адлегласьць ад рулі стрэльбы да мішэні 36,6 мт. (51,3 ар.) абмерана па рулетцы. 14) Досьледы ўтвараліся з садачнай стрэльбай Заўэра ў 1913 г. з патронамі, набітымі даваенным „Сокалам" на спэцыяльнай электрамашыне.

З лічбаў табліцы № 2 наяўна відаць, якую важную ролю адбівае палепшаньне нават і самага простага мяккага шроту. Для маіх вопытаў былі ўзяты стрэльбы нявысокіх цэн аднак і яны пацьвердзілі вывады, зробленыя мною з вывучэньня табліц „Фільда". Калі вынікі вопытэ з садачнай стрэльбай Заўэра паказваюць некалькі большую розьніцу між сярэдняй і ніжэйшай кучнасьцю ў 2-х стрэлах з 24, дык трэба прыняць пад увагу, што, па-першае, шрот быў хаця і лепшы (Чиллед Шот), але ўсё-ж такі не сартаваны, па-другое — тут ня можа быць такога роўнага падбору пыжэй. Аднак трэба асабліва заўважыць сабе тое, што садачная стрэльба Заўэра прынесла ўсе шраціны пры ўсіх стрэлах у ліст у 120 см. у квадраце, г. зн. дала ў такі ліст бязумоўна роўны бой толькі з рознымі ступенямі кучнасьці шрацін у цэнтры. Гэта ёсьць вынік ужываньня добрага шроту; дрэнны-ж. тым больш мяккі, ня прынясе ў мішэнь любой велічыні самая лепшая стрэльба. Ніжэйшыя кучнасьці пры „Балли Смите" тлумачацца вялізарнымі яго набоямі, зробленымі спэцыяльна для садачнай стрэльбы па галубох, так сказаць „на вострасьць" і для большага расьсейваньня шроту патрэбных для меншых адлегласьцяй.

Мне могуць, магчыма, сказаць, што ўсё гэта таму, што стрэльбы добрыя. Адказваю: маю стрэльбу сыстэмы „Іжэўск Джонсон" 20 кал. з зробленым мною самім чокам. Яна дае нямінучую пры 1,67 гр. дробнага „Глухаря" і 29 гр. шроту № 3 заводу з кляймом „Т. П. Т." сартаванага, 7140 шрацін уцэнтральны круг дзесяцідзюймавага папярэчніку 30"— 24-25 шрацін у ліст паперы для пісаньня 68 – 70 шрацін і ў круг 30"—ад 96 да 107 шрацін.

**В. А. Пячонкін.**

# ПАВЯДЗЕМ БАРАЦЬБУ З АСЯДАНЬНЕМ ПУШНІНЫ НА МЯСЦОХ ВЫКАНАЕМ ПЛЯН ПА ПУШНЫХ НАРЫХТОЎКАХ



# ПАД АБСТРЭЛ МАС

## Ганебная справа

Усім вядома, што коз дзікіх нельга адстрэльваць за тым, што іх вельмі мала і трэба, каб яны распладзіліся.

Паляўнічыя самі зацікаўлены ў гэтым і саблюдаюць закон. Але ў сям'і не бяз вырадка. Гр. гр. Каманькоў Марка, Зайкоўскі Пятрусь, Пучкоў Ніл і нейкі Баранаў, з калгасу „Акцябр" Полацкай акругі, паляўнічылі на зайцоў, але паднялі казу. Каза прыгожа скакала з купіны на купіну, мялькаючы між кустоў, але адзін стрэл і каза перакінулася праз галаву няжывой.

Хто-б мог падумаць, што арганізаваны ў саюз паляўнічы стане такім злосным браканьерам? Стыдна, таварышы! Але апроч грамадзкага парыцаньня Полацкаму т-ву паляўнічых трэба дабіцца грамадзкага суду над браканьерамі, сурова пакараць і апублікаваць прыгавар у друку.

**Абураны.**

## Рука руку мые

У нас у Лагойскім раёне шмат яшчэ браканьераў. Зараз яны такую штуку зрабілі: бярэ хто-небудзь з сям'і білет, а потым усе паляўнічуюць з ім папераменна.

Напрыклад, гр. Забаронька з Кузеўскага с.-с. Старэйшы брат узяў білет, а паляўнічае з ім і малодшы. Ці ў Калачоўскім с.-с. Тут білет узяў малодшы, а паляўнічае і старэйшы.

Рука руку мые.

Апрача таго, такія „афіцыйныя" браканьеры ня лічацца з тэрмінамі.

**Я. С.**

## Сьмелыя ваўкі і нядбайства паляўнічых

У Грэскім раёне ў калгасе „Першае Мая" ваўкі кожную ноч падкапваюцца ў хлеў.

Нядаўна імі ўнесена 5 калгасных авечак. А што робяць паляўнічыя?

## Адстаюць

Барысаўскія паляўнічыя адстаюць ад намечаных імі раней тэмпаў. Бывала барысаўцы былі ў першых шэрагах. А вось зараз па нарыхтоўцы пушніны, дык яны здалі ўсяго толькі пушніны на 275 руб. па раёну.

З адстрэлам балоў таксама кепска. Пры перарэгістрацыі паляўнічыя лепш плоцяць штраф за неадстрэл драпежнікаў, чым займаюцца самім адстрэлам.

Паляўнічай каапэрацыі трэба ўлічыць тое, што неадстрэленыя драпежнікі прыносяць больш шкоды для нашай усёй гаспадаркі, чым карысьці тыя рублі, якія паступаюць у каапэрацыю за іх неадстрэл.

**Выдра Р.**

## Пушніна загатаўляецца слаба

*(Бешанковічы)*

Пушніна для дзяржавы мае зараз вялікае значэньне. Але яе кепска некаторыя раёны нарыхтоўваюць. Трэба было нарыхтаваць на 624 руб., а нарыхтавана да 30 лістапада на 24 руб., а паляўнічых у раёне 200 чалавек.

Райвыканкомам мала зьвяртаецца ўвагі на нарыхтоўку пушніны. За такую нарыхтоўку трэба аддаваць пад суд.

**Жан.**

## Знойдзены пустыя бутэлькі

Пры ліквідацыі Аршанскага акруговага т-ва паляўнічых у магазыне знойдзена некалькі сот вінных бутэлек розных калібраў. Ліквідкомам устаноўлена запазычанасьць за загадчыкам магазыну больш чым у тысячу рублёў, апрача таго Лосевым растрачана 2426 руб.

Цікава, ці не на гэтыя бутэлькі ўхлопана тры тысячы з паловай рублёў. Гэта ў той час, калі ў магазыне няма боепрыладаў для нарыхтоўкі пушніны паляўнічымі.

Відаць, старое праўленьне любіла лепш страляць пробкамі.

**Ліквідком.**

# З МЕСЦ ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ

## Па Мазыршчыне

### Глыбокі сьнег затрымаў паляваньне на зьвера

Выпаўшы глыбокі сьнег затрымаў паляваньне на пушнога зьвера, бо ў лесе гэты сьнег ня ўлежыўся, дасягае ў шмат мясцох мэтру вышыні і зрабіў непраходнымі лясныя гушчары. У зьвязку з гэтым паляўнічыя за апошнія дні ў лес ня выходзілі і нарыхтоўкі хутравіны за апошнюю пяцідзёўку значна панізіліся.

### Паляваньне на дзікіх кабаноў

У раёне арганізавана паляваньне на дзікіх кабаноў, якія ёсьць у махноўскіх лясох. На гэтае паляваньне выбылі лепшыя паляўнічыя раёну, а таксама прыбылі паляўнічыя з Мазыра. Пры ўдарнай апэрацыі будзе адстраляна да 20 дзікіх кабаноў.

### Няма шроту

Ужо больш месяцу, як у мясцовым аддзяленьні саюзу паляўнічых няма шроту. Шрот быццам выслан з цэнтру, але за ўвесь час ня прыбыў на месца, вандруе ня то ў Мазыры, ня то ў Калінкавічах. Гэткае доўгае адсутнічаньне проту адбіваецца на выкананьні пляну па пушніне, загатоўцы новых відаў скурсыравіны, бо няма чым адстрэліваць зьвера і балзячых сабак, якіх у раёне шмат і за лік якіх можна было-б нарыхтаваць некальні сот скур. Калі шрот ня прыбудзе ў сэзон адстрэлу ляснога зьвера, дык пушніны будзе нарыхтавана мала. **М. Абрамовіч.**

## Вучыцца працаваць у Быхаўцаў

За кароткі час сваёй працы Быхаўскае т-ва мае значныя дасягненьні. Плян пушных нарыхтовак выканан на 108 процантаў. Зьнішчэньне драпежнікаў і бадзячых сабак праводзіцца шляхам колектыўных аблаў.

За квартал—кастрычнік-сьнежань зьнішчана 415 сабак і 15 вайкоў, якія зданы кожсындыкату. У нарыхтоўцы бітай дзічыны для рабочых сталовак ёсьць значныя дасягненьні. Здана паляўнічымі 718 качак, гусей і цецярукоў і 397 зайцаў.

Да выканьня плянаў прыцягнуты паляўнічы актыў і ячэйкі, якіх (ячэек) арганізавалася 18, з іх 5 ячэек пры калгасах і камунах. Працуюць ячэйкі па ўдарнаму разгортваньнем соцспаборніцтва і маюць добрыя вынікі. Пры хлебанарыхтоўках паляўнічыя арганізавалі абозы з хлебам. Ёсьць паляўнічыя куткі пры хатах-чытальнях. Заключаны дагаворы на соцспаборніцтва з Жураўскім райтаварыствам.

Быхаўскімі паляўнічымі гэты дагавор выконваецца.

Гадоўля трусоў разгортваецца. Пабудован трусятнік.

Каапэравана 21 бядняк, калгасьнікі і батракі. Падпіскай на часопісь „Паляўнічы Беларусі“ паляўнічыя ахоплены на 83 проц. Мабілізавана сродкаў па 1 1—31 году—5145 руб., рэалізавана пазыкі на 348 р., на пабудову дырыжаблю сабрана 221 руб.

Усе гэтыя мерапрыемствы праходзяць пры актыўным удзеле паляўнічых, адсюль такія і посьпехі. І калі іншыя раённыя т-вы, суседзкія з Быхаўскім, пярэйдуць на такі самы мэтад работы, дык і ў іх работа наладзіцца.

**Бабчонак.**

**Плян па пушных нарыхтоўках паляўнічай коопэрацыяй выканан на 1-га лютага толькі на 50 проц.**

**Раённыя т-вы павінны павесьці рашучую барацьбу за выкананьне пляну поўнасьцю.**

**Паляўнічыя павінны даць дзяржаве экспортсыравіну.**

## Зьвяроў становіцца больш

У лесе каля в. Доболя, Харлапаўскага с.-с., Бабруйскага раёну зьявіўся дзікі казёл. Трэба заўважыць, што ўжо на працягу 10 год тут ня было гэтых зьвяроў. Гэта паказвае на тое, што паляўнічая гаспадарка Беларусі багацее.

**Шмялёў А.**

## Шэрыя курапаткі ёсьць

Пісалася ў паляўнічым друку, што шэрыя курапаткі гінуць. У нашым Меляшкоўскім с.-с. і ў суседнім Урэцкім ёсьць ў гэтым годзе вельмі шмат шэрых курапатак. Амаль на 2—3 кв. кілёмэтры ёсьць вывадак курапатак колькасьцю прыблізна ў 15 шт. Але з лістапада чамусьці вывадкі сталі зьмяншацца і не з тае прычыны, што іх адстрэльваюць паляўнічыя.

Курапаткі ў нас выводзяцца на сенажацях, між балотцаў, на купінах, а калі пасьпявае авёс перасяляюцца да яго.

Цікава было-б вывучыць ад чаго гінуць курапаткі?

**Ю. С. Малевіч.**

## Мала зьвераўых сабак

У Слуцкім раёне шмат зьвяр'я, многа і паляўнічых, якія не сядзяць у хаце, але недахоп сабак, ганчакоў, ставіць паляваньне не здабычлівым. Ходзіш-ходзіш, а зьвера і ня ўбачыш у той час, калі зьвер ёсьць, а то ўбачыш, параніш, ды ён уходзіць і прападае без карысьці.

Без сабак нельга паляўнічаць і трэба нешта прыдумаць.

**Малевіч.**



## Крадуць сабак

У Барысаве і раёне за апошнія часы зарэгістравана шмат выпадкаў крадзяжу паляўнічых сабак. Толькі па гораду было такіх 30 выпадкаў. Часта гіцалі прадавалі паляўнічых сабак. Але-ж той паляўнічы, які купляе ў гіцэля невядомага, чужога сабаку, павінен несьці кару, хаця-б у парадку саюзнай дысцыпліны.

Але ёсьць паляўнічыя такія, што крадуць сабак адзін у аднаго. Напрыклад, рабочы ф-кі „Чырвоная Бярэзіна“ Забаронін сьцягнуў шчэнную гончую сучку ў Беляўскага, распрадаў шчанят, а сучку прадаў паляўнічаму Хацкевічу з в. Кімія, Зембінскага с.-с.

**Выдра.**

## Як лавіць кратоў

Будучы ў Менску я дастаў 40 шт. краталовак. 2 краталоўкі ўзяў паляўнічы Канавальчык (Брагін). Спачатку Канавальчыку ніяк не ўдавалася добра ставіць краталоўкі. Але я яму параіў, як правільна паставіць краталоўку, каб мець добрыя посьпехі. І работа не прапала задарма: хутка ў краталоўку сталі пападаць адзін за адным краты. Тады Канавальчык яшчэ ўзяў дзьве краталоўкі і стаў прамышляць чатырма.

За адзін тыдзень Канавальчык злавіў гэтымі краталоўкамі 100 шт. кратоў, што складае каля 50 руб. на грошы.

Калі-б іншыя паляўнічыя заняліся так гэтай справай, была-б карысьць і ім і дзяржаве.

**Сідарэнка.**

*Ад рэд.* Краталоўка апісана ў №№ 9 і 11 нашае часопісі за мінулы год.

*Рэд.*

## Цікавы выпадак з драпежнікам

26 лістапада ў 3 кілёмэтрах ад канцэлярыі запаведніка на х. Нешкава задраў каршун-цецяравятнік курыцу. Зьеўшы амаль усю яе каршун сеў пад ігрушу і быў жывым злоўлен гр. Жахсўскім. Гэты каршун быў узяты ў запаведнік і прапараваны. Пры зьняцьці скуркі было ўстаноўлена, што каршун падавіўся костачкамі курыцы.

**Д. Шэйка.**

## Цікавы выпадак

20-га сьнежня 1930 г. я накіраваўся на паляваньне ў раёне в. Высокая Грыва, Чачэрскага раёну. Глыбокі, у калена сьнег, перашкоджваў паляваньню на зайцоў і я рашыў зьвярнуцца дамоў. Амаль каля самае вёскі, праходзячы праз невялікае, заросшае лазой і асіньнікам балота, якое зараз замёрзла і пакрыта глыбокім сьнегам і ў якім улетку бывае шмат качак, я быў напалоханы раптоўным лапатаньнем крыльляў птахі. Я схапіў стрэльбу і замёр ад зьдзіўленьня... Кроках у 25 ад мяне, падымаўся самы сапраўдны крыжны селязень. Палёт селязьня быў даволі ціхі і нежвавы. Гэта раптоўнае і ў такім месцы зьяўленьне крыжнага селезьня, сярод сьнежнага поля, настолькі зьдзівіла мяне, што я стрэліў ў яго, калі ён быў ужо далёка і селязень не зьмяняючы напрамку палёту павольна паляцеў да другога, таксама замёрзлага балота.

— Я агледзіў тое месца, адкуль узьняўся селязень. На сьнягу знайшоў „брадок“, а пад малой елачкай у сьнягу ямку, у якой вуціны памёт.

— Што прымусіла селязьня забрэцца ў замёрзлае і засыпанае сьнегам балота— для мяне незразумела, бо бліжэйшая рэчка Бесядзь, дзе могуць быць паланьні у 5-6 км. ад гэтага месца. В. **Караткевіч.**

## Нячуваная рэч

Праяджаючы 23 сьнежня раніцой на ўсходзе сонца па дарозе ад вёскі Калыбань у мястэчка Камарын, я зьвярнуў увагу на ток цецерука, які сядзеў крокаў на 100 ад дарогі на бярозе і такаваў. *Ток яго быў пэрыядычным.* Цецярук толькі балбатаў, але-ж звычайнага веснавога „чуфыканьня“ чуць ня было. Яго ток цягнуўся з паўгадзіны.

Другі раз у 1927 годзе ў пачатку лютага, будучы на паляваньні ў раёне Рэчыцы, вурочышча Кабышаўка з другім паляўнічым т. Шчыкам мне ў першы раз прышлося чуць ток цецярука зімой, але-ж зімні ток цецярукоў па маіх назіраньнях зусім розьніцца ад веснавога.

**Бабчонак.**

## Па Слуцкаму райтаварыству

Каля Слуцку ва ўрочышчы „Гнілая“ ў лістападзе зьявілася трое дзікаў: сьвіньня пудоў 10, кабан пудоў 8 і парасё. Надоечы дзікі прышлі зусім блізка да вёскі, амаль што ў хлеў. Некаторыя паляўнічыя хацелі ўчыніць на іх паляваньне, але другія растлумачылі, што на дзікоў паляваньне забаронена.

У мінулым годзе Слуцкае райбюро працавала кепска. Толькі цяпер, калі арганізавалася новае райтаварыства праца стала наладжвацца Арганізоўваюцца ячэйкі паляўнічых новыя, ажываюць старыя. Праведзенна чыстка, на месца 10 вычышчаных шкоднікаў і чужакоў, пасыпаліся дзесяткі новых рабочых, калгасьнікаў, батракоў. Зараз т-ва складаецца з 512 чалавек.

З надрыхтоўкай пушніны справа абстаіць здавальняючы. На 1 сьнежня нарыхтавана на 251 руб. Спадзяемся, што плян пушных нарыхтовак будзе выкананы поўнасьцю. **Ц. Кадыш.**

**Рашаючым момантам для ліквідацыі прарыву па пушных нарыхтоўках зьяўляецца ўмелае выкарыстаньне канца сэзону паляваньня і правядзеньне барацьбы з асяданьнем пушніны на мясцох.**



# РЫБАВОДЗТВА І РЫБАЛОЎСТВА

## Рыбаводзтва ў СССР

Урадам СССР зьвернута вялікая ўвага на разьвіцьцё рыбаводных мерапрыемстваў і зараз наша краіна займае ў гэтай адносіне не апошняе месца ў шэрагу іншых дзяржаў. Цікава пазнаёміць нашых чытачоў у агульных рысах з тым, што дасягнута намі ў галіне рыбаводзтва за апошнія годы. Якраз толькі што выдана зводка па гэтаму пытаньню М. І. Ціхога, лічбы якой мы і выкарыстаем, галоўным чынам, у гэтым нарысе. Заўважым, што ў далейшым гутарка будзе ісьці аб дзяржаўным рыбаводзтве. З рыб асятровых у нас разводзяцца асятруга, рускі асяцёр і сьцерлядь. Па размаху работ па асетровых можна судзіць па наступных лічбах: за 10 апошніх год выпушчана 106 мільёнаў штук, якія разьмяркоўваюцца такім чынам: сяўруга 71 мл. шт., асяцёр—звыш 30 мл. і сьцерлядзь каля 5 мл. Усе гэтыя рыбы разводзяцца, галоўным чынам, у рэках, упадаючых у Касьпійскае мора (Волга, Кура, Сеерыд-Руд і інш.) і потым Азоўскае мора (Дон, Кубань). Цікава адзначыць, што ў сярэднім для рыбаводных работ выкарыстоўваецца каля 2 проц. усяго ўлова рыб у нераст. Уплыў рыбаводных мерапрыемстваў па асятровых у сэнсе павышэньня ўлоўнасьці павінен будзе адбіцца ў адносіне сеўругі год праз 8—18 (для Куры), праз 5—13 год (Азоўскае мора) і ў адносіне асятра праз 12—18 год.

У адносіне сігавых, работа значна пасунулася пасьля пабудовы Волхаўскага заводу, яго прадукцыяй у 200 мл. сігавай ікры. Наогул у 1928 29 годзе на Волхаўскім і Нікольскім заводах было выведзена 217.682 тыс. штук пасадачнага матар'ялу, з іх чудзкага сіга звыш 50 тыс. штук, чудзкай ракушкі звыш 100 тыс. шт., волхаўскага сіга каля 40 тыс., сіга-лодугі 7 тыс. і помесі сіга і ракушкі звыш 1 тыс. штук. Усяго за паказаны год было нарыхтована пасадачнага матар'ялу ў паўтары разы больш, чым за ўвесь ранейшы час, г. зн. за 8 год.

Уся гэта колькасьць моладзі была расаджана па 886 вазёрах, прычым у асабліваcьці былі абхоплены вазёры Беларусі. У 5 былых акругах Беларусі (Полацкай, Мазырскай, Віцебскай, Менскай і Аршанскай) было засаджана 40 вазёр моладзьдзю сігоў і 36 вазёр моладзьдзю ракушкі, апрача таго была высаджана моладзь сігавых у 31 возеры Ленінградзкай вобласьці і ў 15 вазёрах Карэліі, Тверскай акругі, Уладзімерскай, Уральскай вобласьці і Арменіі.

У 1929 годзе ікра волхаўскага і чудзкага сігоў была накірована нават па спэцыяльнаму заказу ў Японію праз Уладзівасток і прытым упаўне пасьпяхова.

Асабліва ў вялікіх разьмерах, ідзе работа па корушцы (корушка) на Няве і часткай у р. Волхаве. Зараз прадукцыя корушкі дасягае 1 мільярду у год, з ласосі прыняты спробы да разьвядзеньня анежскага ласося, за тым ласося пры ўпадзеньні ракі Арагвы ў сувязі з установкай Земо - Алгальскай гідраэлектычнай станцыі, касьпійскага ласося, курынскага, вядзецца кожны год работа па разьвядзеньні няўскога ласося. Пасьпяхова разьвіваецца работа па разьвядзеньню фарэляй на возеры Гокча ў Арменіі. На Дальнім Усходзе працягваецца разьвядзеньне ціхаакіянскіх ласосяй. За шэсьць апошніх год выпушчана моладзі 37.700 т. штук.



З карпавых і акунёвых рыб у нас у Саюзе разводзіцца (гутарка ідзе толькі аб дзяржаўным рыбаводзтве) лешч, кутум і судак.

В. Е.

# Хваробы карпаў

*(Пераклад артыкулу нямецкага доктара Отто Гашотта з некаторымі зьменамі і дадаткамі)*

На старонках аднаго з нямецкіх пэрыодычных выданьняў па рыбнай гаспадарцы*) вядомы спэцыялісты па хваробах рыб доктар О. Гашотт, які працуе на баварскай дасьледчай станцыі па рыбалоўству, зьмясьціў нарыс хвароб карпа ў выглядзе табліц, з дапамогай якіх усякі мала-мальскі пісьменны і ўмеючы карыстацца простым мікраскопам можа ў вядомай долі дакладна вызначыць хваробы рыб. Мяркуючы, што такія табліцы будуць карысны і для нашых рыбаводаў, мы даем іх у нашым часопісу ў некалькі зьмененым і дададзеным выглядзе.

Як ужо вышэй было сказана, для таго, каб паставіць правільны дыягноз захварэўшай рыбы, неабходна ўмець карыстацца простым мікраскопам. Нам здаецца, што гэта абставіна не павінна асабліва непакоіць тых, хто пажадаў-бы карыстацца табліцамі Гашотта. Заўсёды па блізасьці гаспадаркі рыбавода знойдзецца школа, больніца, станцыя абароны расьлін і падобных устаноў, дзе ў штодзённай рабоце дапасоўвацца мікраскоп, які і можа быць з дапамогай спэцыялістага або самастойна выкарыстаць для мэт пастаноўкі дыагноза хваробы рыбы.

Два словы аб пабудове табліц і аб парадку іх зьмяшчэньня на старонках нашага часопісу.

Табліцы Гашотта падзяляюцца на дзьве часткі. У першай частцы ўведзены сымптомы хвароб рыбы, у другой—даецца апісаньне самаго захварэньня і прычыны або прычыны яго выклікаючыя. Першая частка ў сваю чаргу падзяляецца на тры аддзелы: аддзел а) — апісаньне тых зьявішчаў, якія назіраюцца ў адносіне хвароб рыбы ў ставу, гэта значыць на жывой рыбе; аддзел б) — што назіраецца на захварэўшай мёртвай рыбе з надворнага боку і аддзел в) — што назіраецца на захварэўшай мёртвай рыбе пры ўнутраным яе дасьледваньні. Табліцы першай часткі пабудаваны такім чынам, што зьлева зьмешчана апісаньне галоўнейшых сымптомаў, а справа назва хваробы. Разам з назвай хваробы пастаўлена лічба, пад якой у другой частцы зьмешчана падрабязнае апісаньне хваробы. З тае прычыны, што зьмясьціць у адным нумары часопісу ўсю работу Гашотта няма магчымасьці, мы разаб'ем яе на часткі і зьмесьцім у некалькіх нумарох.

## Дасьледваньне хворага карпа

*(Вызначальная табліца захварэньня карпа па важнейшых сымптомах).*

а) Вынікі назіраньняў над хворай рыбай у ставу.

Каб вызначыць захварэньне рыбы, неабходна назіраць ня толькі за паводзінамі хворай рыбы, а таксама зьвяртаць увагу і на стан ставу і вады ў ім.

| | |
|---|---|
| Рыбы паказваюцца ў верхніх пластах вады, смагна хапляючы паветра . . . . . . . | Недастатковае ўтрыманьне тлёну ў вадзе, 24.<br>Dactylogyrus pastator**) 14.<br>Інфэкцыйная вадзянка жывата, 35. |
| Рыбы нярухомы, вялы, скапляюцца ў берагоў, не рэагуюць на хваляваньне вады . . . . . . . | Гніеньне зябраў, 5.<br>Кіслотнае захварэньне, 22.<br>Інфэкцыйная вадзянка жывата, 35. |
| Рыбы ліхаманкава рухаюцца ў вадзе . . . . . | Zentospora ancephalica, 59. |
| Рыбы ляжаць нярухома на баку . . . . . | Сонная хвароба, 60. |

б) Вынікі назіраньняў над мёртвай рыбай пры знадворным яе выглядзе.

### Агульная форма цела.

| | |
|---|---|
| Цела пакрыўленае . . . . . . . | Сколіозіс або мордозіс вужлака, 27, 28 |
| Галава ненармальна патоўшчака . . . . . | Слабое харчаваньне, паразіты. |
| Няма аднаго ці некалькіх плаўнікоў . . . . . | Адсутнасьць плаўнікоў, 30. |
| Жывот уздут. Пры ўскрыцьці знойдзена: а) поласьць цела напоўненая вадкасьцю . . . . . | Вадзянка поласьці цела, 33, 35. |
| б) У поласьці цела лентачныя чэрві . . . . | Лігула, 34. |
| в) Яечнік з напоўненым вадкасьцю мачавым пухіром | Ціста яечніка, 55. |

*) Allgemeine Fischerei-Zeitung, 1930, Nr. 20, 21, 22, 23, 24. Augsburg.

**) Лацінская назва захварэньня будзе растлумачана ў другой частцы.

| | |
|---|---|
| г) Яйца (ястыкі) разжыжаны . . . . . . | Разжыжэньне ястыкаў, 57. |
| Анус (задня-праходная адутліна) варонкі вобразна вылучана . | Успаленьне страўніка, 42. |

**Галава.**

| | |
|---|---|
| Галава ўкарочана . . . . . . . . . | Выгляд галавы, як у мопса, 29. |
| Вочы выпучаны . . . . . . . . . | Exophthalmus, 61. |
| У наздрах клубкі грыбкоў . . . . . . . | Хвароба ноздраў, 7. |
| Жаберныя крышкі не пакрываюць зябраў . . . . | Укарачэньне зябарных крышак, 32. |
| На зяберных крышках цёмныя плямы або адутліны . . | Другі выгляд хваробы зяберных крышак, 31. |

Вельмі важна, каб рыба была зусім сьвежай. Таму лепш за ўсё абгляд учыняць адразу-ж пасьля таго, як хворая рыба ўзята з става. Перад дасьледваньнем рыба не павінна ні ў ва што пакавацца, каб не прапалі мікробы скуры і зябраў пад мікраскопам, беручь чысты нож і тупым яго бокам са скабліваюць іх і зьмяшчаюць на прадметнае шкло, прыкрыўшы мазок пакрыўным маленькім шклом *)

Пераклаў В. Е.

*(Працяг у наступным нумары).*

*) Прадметнае шкло—спэцыяльна нарэзаныя для мікраскапічных дасьледваньняў шкляныя пласьцінкі разьмерам 8—9 × 3—4 см; пакрыўнае шкло—тонкая шкляная пласьцінка разьмерам 18 × 18, якой пакрываецца аб'ект дасьледваньня.

## Наладзіць кіраўніцтва рыбалоўнымі арцелямі

У Расонскім раёне ёсьць дзьве рыбалоўныя арцелі: Скуратаўская і Нешчэрскае. Вадаёмаў шмат, але работа гэтых арцеляй праходзіць самацёкам; няма ніякага кіраўніцтва з боку раённых арганізацый, справаздачы арцеляй нідзе не заслухоўваюцца ніякімі арганізацыямі і як быццам-бы нікога гэта недатычыцца. Вадаёмы ў большасьці засьмечаны розным ломам і замест практычнае працы па вылаву рыбы, арцелі займаюцца чысткай вадаёмаў. У забясьпечваньні рыбакоў прамтаварамі поўная блытаніна, па 3—5 дзён прыходзіцца рыбакам хадзіць у спажывецкае т-ва за атрыманьнем прамтавараў. Райнаркамгандлю не зьвяртае ніякае ўвагі на гэта, у той час, як Наркамгандлю даў распараджэньне аб праверцы на месцах забясьпечаньня рыбных арцеляй прамтаварамі, у выпадку такога самацёку і без належнай дапамогі і кіраўніцтва па вылаву рыбы ёсьць недавыкананьне плянаў: Скуратаўская арцель павінна была вылавіць за верасень м-ц 50 цнт. рыбы, а здала толькі 23 цн. У кастрычніку тое ж заданьне выканана за першыя дзьве дзесяцідзнёўкі толькі 21 цнт. Пры такой пастаноўцы працы рабочыя цэнтры рыбай не забясьпечаны. Райарганізацыям трэба ўзяць поўнае кіраўніцтва над рыбаарцелямі, дапамагчы ім у пашырэньні арцеляй і інш. і павялічыць улоў рыбы на Расоншчыне, дзе так многа рыбы.

Хв. Тогулёў.



# У Злучаных Штатах

**Паляваньне ў Канадзе.** У сучасны момант у Канадзе — апошні буйны прытулак для дзічы на паўночна-амэрыканскім контынэнце. Яе 500 мільёнаў акраў лясоў, некаторая частка якіх зусім непраходна, займаючая вялізарны прастор з яшчэ не ўстаноўленай географічнай конфігурацыяй, складае такое паляўніцкае ўгодзьдзе, якое пры абароне адпавядаючых законаў аб паляваньні доўгі час будзе нявычарпаным. Зразумела, што першабытны стан некаторых канадзкіх паляўнічых угодзьдзяў—зьяўляецца каштоўнымі натуральнымі рэзэрвамі, у выніку чаго ўрад задаўся мэтай захаваньня іх запасаў у іх дзічы для будучых пакаленьняў паляўнічых. Паляўнічыя законы Канады ўстанаўляюць асобныя тэрміны і сэзоны, калі паляваньне зусім зачынена. Гэтыя пэрыяды саўпадаюць часьцей за ўсё з пэрыядам паменшаньня дзічы і падрастаньня моладзі. Іх працяжнасьць устанаўляецца з пэрыядам часу—неабходным для сьпеласьці маладняку.

Такім чынам паляўнічы ў Канадзе мае пад стрэльбу ўпаўне сьпелую дзічыну розных пакаленьняў. Паляўнічыя вартаўнікі інспэкцыя кружаць па ўсіх правінцыях на працягу ўсяго году і асабліва ў забаронены час для паляваньня, канфіскуючы паляўнічую зброю ці арыштоўваючы парушыцеляў закону аб паляваньні.

Акуратнасьць у саблюдзеньні законаў па ахове дзічыны ў Канадзкіх лясох, якія напоўнены дзічай, могуць лепш за ўсё сьведчыць аб гэтых посьпехах.

19 000 акраў лепшых паляўнічых угодзьдзяў, адведзеных пад запаведнікі, маюць вялікую ролю ў павялічэньні запасаў дзічы суседніх з імі паляўнічых угодзьдзяў.

Канада - краіна маладая і значная частка яе абласьцей (часьцяком тэрыторый, якія перавышаюць некаторыя заходня-эўропэйскія дзяржавы) уяўляюць ідэальныя паляўнічыя ўгодзьдзі. Некаторыя з іх ляжаць блізка каля чыгуначных артэрый, якія яднаюць цэнтры і паляўнічыя могуць за адну ноч, праведзеную ў пульманскім вагоне, раніцай быць у першабытных канадзкіх лясох. Гэтай даступнасьцю тлумачыцца папулярнасьць паляўнічых угодзьдзяў Канады ня толькі сярод тубыльцаў, амэрыканскіх паляўнічых, але і сярод эўропэйскіх паляўнічых.

У прыморскіх правінцыях Новай Шотляндыі, Новым Бруньсвіку і высьпе прынца Эдуарда, канадзкая нацыянальная чыгунка перасякае самую лепшую паляўнічую тэрыторыю краіны.

Існуе асобная спартыўная кампанія, якая арганізоўвае паляўнічыя экспэдыцыі, задавальняе вопытнымі праваднікамі і абслугоўвае ўсе патрэбнасьці нават самых багатых паляўнічых.



Зіма.

У правінцыях Онтарыо і Квебек, канадзкая нацыянальная чыгунка перасякая вобласьці, якія захаваліся ў першабытным стане, і багаты на дзіч. Гэтыя вобласьці перасечаны шматлікімі рэкамі, якія ўтвараюць найлепшыя водныя шляхі ў глыбіню краіны, у самыя далёкія глухія куткі, непраходныя мясцы, куды толь і паляўнічы з яго лёгкім чоўнам, рухомы паляўнічым пылам, ня маючым меж, можа пранікнуць. На поўначы сеці канадзкай нацыянальнай чыгункі прасьціраюцца таксама ў найлепшыя паляўнічыя ўгодзьдзі, дзе сустракаюцца самыя буйныя лосі.

Скрыжаваньне транскантынэнтальнай лініі на поўначы і на поўдзень праходзіць па багацейшых паляўнічых абласьцях, прэрыях. У брытанскай Калумбіі, паўночная ветка Канадзкай нацыянальнай чыгункі між Элод-Геднасе і прынцам Рунертам праходзяць у цэнтры вобласьці, багатай буйнай дзіччу.

Большая частка тэрыторыі Канады адкрыта для паляўнічых усіх краін, якія дапускаюцца туды па спэцыяльных паляўнічых дазволах. Выключэньне складае Квебэк, дзе паляваньне належыць прыватнаму паляўнічаму т-ву, ад якога і залежаць правы атрыманьня паляўнічых білетаў.

Рознастайнасьць канадзкай дзічы вялізарная.

Лось, які сустракаецца часьцей у балоцістых мясцох прымарскіх правінцый, на поўначы Квебэк і Онтарыо і на поўначы Брытанскай Калумбіі, а таксама ў Новай Шотляндыі і Н.-Брунсьвіка, алені, на якіх тут паляўнічаць галоўным чынам у пэрыяд рову. Карыбу, паляваньне на якога дазваляецца толькі ў нямногіх абласьцях.

Ягадная флёра тут багатая і да канца лета тут часта сустракаюцца мядзьведзі. Паляваньне на мядзьведзяў дазволена ў большасьці правінцый круглы год. Новая Шотляндыя лічыць, што яе тэрыторыя багацей буйной дзічай апошніх правінцый Домініёну. Каля 70 проц. яе тэрыторыі, у 21.000 кв. міль пакрыта лясамі. Апошнія годы паляўнічыя ўстанавілі такія высокія рэкорды па колькасьці здабываемай імі дзічы, якім 10—15 год нават ніхто не паверыў-бы. Гэта зьяўляецца адным з найлепшых доказаў правільнага вядзеньня сваёй паляўнічай гаспадаркі Новай Шотляндыі і ўдасканаленьні рэгляментацыі паляваньня. Даступнасьць паляўнічых Канады, найлепш ілюструецца ў Новай Шотляндыі. Кліс Кунта ўсяго толькі ў 120 мілях ад Галіфэкса і туды можна паехаць ня толькі па канадзкай нацыянальнай чыгунцы, але і аўтамабілем. Вакзал Галедонія на чыгуначнай лініі і ад яго ў непасрэднай блізкасьці вялізарнае паляўнічае ўгодзьдзе ў 750 кв. міль, якое вядома багацьцем буйной дзічыны. Угодзьдзе гэта ўключае да 130 найлепшых вазёр. Аленяў, ласёў, мядзьведзяў, фазанаў і курапатак тут шмат, а на возерах найлепшае паляваньне за качкамі і вадаплаваючай дзічынай.

У Новым Брунсьвіку індустрыяльныя гарады групуюцца побач берагавой паласы. Новы Брунсьвік вельмі вядомы сярод паляўнічых колаў як вобласьць, у якой зручнасьць паляваньня ня можа раўняцца ні з іншай другой. Унутры вобласьці вялізарная колькасьць скалістых схілаў, балот, вазёр і рэк, якія багаты ўсякай дзічай.

У вобласьці Квебэк, вялізарны нацыянальны парк плошчай у 2.500 кв. міль—штогод напаўняецца дзічай з суседніх з ім угодзьдзяў вобласьці. У гэтай вобласьці 1.000 вазёр знаходзіцца ў першабытным стане і недатычнасьці з боку чалавека.

Дзікае жыцьцё Брытанскай Калумбіі таксама рознастайна, як яе топографія. У паўночнай яе частцы з поўначы на поўдзень ад лініі нацыянальнай канадзкай чыгункі сустракаецца шмат буйной дзічы ўсіх відаў. Паўднёвыя вучасткі багаты драпежнікамі, ад куніцы да мядзьведзя ўключна. Паляваньне на пярнатую дзічыну найлепшае, у асаблівасьці ў паўднёвых абласьцях і сэзон паляваньня на качак і фазанаў штогод з нецярпеньнем чакаецца шматлікімі аматарамі.

**М. З.**

## Н. Ф. Раждзественскі. „Справочная книжка рыбака“. Сельгасдзярж в-ва М.—Л. 1930 г., стар. 384. Цана 1 р. 50 к.

Карысная кніжка для рыбака, патрэбнасьць у якой даўно ўжо пасьпела. У агульнай частцы даецца характарыстыка галоўнейшых нашых рыбнапрамысловых раёнаў, удзяляецца месца аховы рыбных багацьцяў і рыбаводзтву. Спэцыяльная частка адведзена рыбацкай каапэрацыі, а найбольшае месца займаюць такія пытаньні, як спосабы і тэхніка лова, пляценьне, пасадка і пачынка сецяў, хаваньне жывой рыбы, перавозка рыбы і, урэшце, рыбныя тавары.



Ёсьць частка і аб промысьле рачных ракаў. У даведачнай частцы адведзена месца дзяржстрахаваньню судоў, сельгаспадатку, ашчадкасам, даюцца паказаньні, дзе можа вучыцца рыбак і прыводзіцца галоўнейшая літаратура па гэтай справе.

Ёсьць таксама частка „Карысных парад і паказаньняў“, дзе даюцца паказаньні аб компасе, аб прыгатаваньні непрамакаемай тканіны, сродкаў супроць камароў і г. д.

У дадатку дан кароткі рыбацкі слоўнік, календар бесьперапынка і шэраг мэтэоролёгічных і астранамічных зьвестак.

Як бачым, зьмест „Даведачніка“ вельмі багаты. Нажаль аўтар зусім ня даў часткі аб жыцьці рыб, іх размножаньні, міграцыі і г. д.

Усе гэтыя пытаньні таксама цікавы рыбакам і вельмі важны, напрыклад, пры тлумачэньні, чаму трэба ахоўваць рыбу. Наўрад ці павялічыла-б такая частка кнігу, ды і можна было б для гэтага некалькі скараціць, напрыклад, частку аб рыбных таварах.

**В. Е.**

# ЛІТАРАТУРА

# Трывожны шлях

Я вяртаўся з разьведачнай партыяй з тайгі на зімовыя кватэры ў сяло Нікольскае (зараз горад Нікольск-Усурыйскі). Раніца ў той дзень была марозная, сонечная і зусім ціхая. Я ехаў некалькі ўперадзе партыі і з тае прычыны, што сьцежка, па якой мы ехалі, была зусім добра пратоптана, то, не баючыся, што партыя можа зьбіцца з шляху, я ехаў з былым пры мне казаком уперадзе не без таемнай надзеі здабыць якую-небудзь дзічыну.

У скорасьці мы выехалі з лесу і перад нашымі вачмі раскінулася вялізарная, амаль што пазбаўленая хмызьняку, сьнежная палянка, на якой паводдаль спакойна жыравалі сем дзікоў.

Судзячы па становішчу кабаноў, якія пасоўваліся ўперад, можна было мяркаваць, што яны выйшлі з лесу, каля якога пралягала зараз наша сьцежка па гэтаму, знайшоўшы выхадны іх сьлед і іх саміх тут, можна было пры умелым аб'езьдзе накіраваць іх зноў тым-жа самым сьледам у лес. І сапраўды, ідучы ўсё тым-жа шляхам паўзлеса, мы хутка, але ўжо пакінуўшы значна ззаду сябе дзікоў, наткнуліся на выхадны іх сьлед, на якім я і рашыў засесьці.

— Адвядзі майго каня,— зьвярнуўся я да казака,— крокаў на дзьвесьце назад, прывяжы яго там дзе-небудзь у гушчары, а сам ідзі у аб'езд кабаноў і пугні іх у мой бок.

— Вельмі проста, „аднак!"— адказаў казак.

На жаль, казак зьбіўся з напрамку. Ён хаця і аб'ехау кабаноў, як я яго вучыў, але пагнаў іх у бок і пры гэтым яшчэ выпаліў па іх з сваёй бярданкі. Зацея мая канчаткова была сапсавана, і мне другога нічога не аставалася, як прыкра пакінуць свой пост.

Недачакаўшыся казака, я пашоў сьцежкай уперад. казак-жа, вярнуўшыся і не найшоўшы мяне на месцы, павінен быў, як заўсёды рабілася ў такіх выпадках, забраць майго каня і ехаць за мной.

Прайшло ўжо добрай поўгадзіны, палянка даўно кончылася і пачаўся суцэльны кядроўнік, а казака ўсё няма і няма. Тым часам неба стала завалаквацца хмарамі, стаў парашыць невялікі сьняжок, прытрушваючы маю сьцежку і, робячы яе гэтым самым менш бачнай. Рашыў пачакаць яго тут.

— Так, ці наша гэта сьцежка? Ці ня другая якая-небудзь?—падумаў я.

На шчасьце пры мне была топографічная карта. Я адразу-ж убачыў, што сьцежка, па якой я ішоў, ня тая, якая нам патрэбна: тая сьцежка адыйшла ўжо даўным даўно амаль пад простым кутом улева.

Прыкладна праз гадзіну хадзьбы я выйшаў зноў на сваю паляну, найшоў станяку, майго каня і тут-жа, радам, сьцежку, якая павярнула ў бок, чаго я раней, зацікавіўшыся кабанамі, не заўважыў. Натоптана было шмат і, ня гледзячы на падаўшы сьнег, сьцежка была відаць добра. З падвоенай энэргіяй я пусьціўся далей. Праз якую-небудзь поўгадзіну я упёрся ў рачушку з брадком праз яе. Не хацелася мне пераходзіць рачушку з ледзяной вадой і я рашыў стрэліць два разы падрад, каб гэтым даць аб сябе знаць партыі, калі яна яшчэ паблізасьці, але адказу ня было. Воляй-няволяй прышлося прыняць лядзяную ванну. На шчасьце, брадок быў няглыбокі і я, пераходзячы яго, набраў толькі поўныя боты вады.

Я зноў шпарка пайшоў і зараз-жа наткнуўся на сьвежы тыпічны сьлед буйнога тыгры. Зьвер ішоў на перарэз нашай сьцежцы і, судзячы па таму, што сьляды лап амаль ня былі прытрушаны сьнегам, прайшоў тут усяго некалькі мінут таму назад.

Не скажу, каб находка гэта мне асабліва падабалася. Справа ішла к ночы, дагнаць партыю я ўжо не мяркаваў, і пэрспэктыва правесьці доўгую зімнюю ноч па суседзтву з тыграм мне зусім не падабалася. А тут яшчэ, як на грэх, я застаўся зусім без сярнічак. Разьвёўшы

касьцёр я ня толькі быў-бы ў цяпле, але і ў поўнай небясьпецы—тыгра на агонь ня пойдзе.

Сьлед належыў бязумоўна вельмі буйному зьверу, аб чым можна было судзіць па таму, што мая шапка чуць-чуць закрывала адбітак яго пярэдняй лапы. З захапленьнем я прайшоў па гэтаму сьледу нават некалькі ў бок ад сьцежкі, але тут пачуўся трэск ззаду мяне і з-за кустоў паказаўся казак, які вёў таксама і майго каня.

Мы хутка нагналі партыю, якая зьбілася неяк бесталкова ў адну кучу. Аказалася, што нашы праваднікі-карэйцы, якія вызваліся правесьці нас карацейшым шляхам да бліжэйшага жыльля, зьбіліся са сьцежкі, як толькі пайшоў сьнег, і сталі круціцца на месцы.

Я пачаў шукаць сьцежку з надзеяй дабрацца яшчэ да наступленьня поўнай цемнаты да якой-небудзь крыніцы, дзе-б можна было пераначаваць. І вось, робячы колы па тайзе, я раптам зусім не чакана наткнуўся на чатырох буйных кабаноў. Яны стаялі на невялікай палянцы, крокаў на 70 ад мяне і як бы прыслухоўваліся да таго, што адбываецца паблізу.

Здымаю стрэльбу—хутка бяру на мушку бліжэйшага кабана, спускаю курок. Кабан закруціўся на месцы і мёртва ткнуўся мордай у сьнег. Апошніх як віхром зьмяло.

На стрэл хутка прыскакаў казак, а за ім падцягнуліся да нас і апошнія. Няма чаго і казаць, што кабан адразу-ж ліквідаваў спрэчкі, якія да гэтага былі між намі, і ўсе радасна прыняліся за работу. На наша шчасьце тут-жа па блізасьці аказалася жаданая крыніца. Разьмясьціліся мы на маленькай палянцы, якая нібы ўціснулася насільна ў суцэльную таўшчыню, шчыльна абступіўшых яе з усіх бакоў кедраў. У кастра, сярдзіта шыпеўшага ад падаючых сьняжынак, наколькі магчыма бліжэй да агню, стаўпіўшыся ў кампактную масу, разьмясьціліся ўсе ўдзельнікі партыі ў перамежку з клункамі, сёдламі, кабановай тушай, сабакамі і коньмі.

Прасыпаючыся некалькі разоў уначы, я, між іншым, зьвярнуў увагу на надзвычайныя паводзіны нашых сабак; яны ўвесь час трывожна ўглядаліся ў прастор, пры чым, неяк асабліва, пішчэлі і ўсё ціснуліся да карэйцаў, якія сядзелі каля кастра і без перапынку ўвес час напаўнялі свае пустыя жываты смачным мясам. Сабакі бязумоўна чулі блізкасьць нейкага драпежніка. Коні таксама стала паводзілі вушамі і часамі кідалі жаваць засыпаны ім авёс і баязьліва хрыпелі. Карэйцы таксама білі нечым заклапочаны. Яны ўвесь час зайдросна падтрымлівалі вялікі агонь у кастры, а калі хрыпелі коні, прымаліся ўсілена яго варушыць і кідаць галавешкамі далёка ў бакі. На маё пытаньне, чаму так беспакойна вядуць сябе коні, яны ў адзін голас адказалі мне: „ламадза“! [1]).

Іх трывожны настрой передаўся і мне. Узброіўшыся сваім штуцэрам, я падсеў да іх. Так прасядзелі мы да самай раніцы, падтрымліваючы агонь у кастры і забаўляючыся ўвесь час чаем.

Наогул ноч прайшла параўнаўча спакойна, калі ня лічыць таго, што перад самым расьсьветам коні неяк асабліва трывожна сталі сябе адчуваць. Быў момант, калі яны бешана рванул іся, паставіўшы ўсіх нас на ногі. Затым усё сьціхла і ўжо больш не паўтаралася да самага раньня.

Раніцай, пакуль кіпяцілі чайнікі і рыхтаваліся да ад'езду я з стрэльбай за плячмі накіраваўся шукаць страчаную сьцежку. Сьнег ураньні спыніўся, і лёг зусім роўным пушыстым слоем. Дзень абяцаў быць зусім соўнечным і ціхім. Не пасьпеў я адыйсьціся ад нашага начлегу і на 50 крокаў, як наткнуўся на сьляды тыгра. Тыгра відаць усю ноч хадзіў навокал нашай стаянкі, але падыйсьці блізка да кастра не пасьмеў. Часамі тыгра ўсё-ж набліжаўся на некалькі крокаў да кастру, а потым зноў адыходзіў.

Вышаўшы на сьцежку я пайшоў па сьледу тыгра, які хутка крута павярнуў у бок і накіраваўся па цаліне. Зрабіўшы у гэтым напрамку сотні дзьве крокаў, я наблізіўся да паваленага кедра, у абход якога пайшоў тыгр. У гэты час адна з маіх сабак, апярэдзіўшы мяне, забег за гэту валежыну і зараз-жа, як ашпараны, моцна запішчэўшы, выляцеў з-за яе і, падціснуўшы хвост, кінуўся з усіх ног наўцёкі. У гэты момант я інстынктыўна пачуў блізасьць зьвера і, ня гледзячы на сур'ёзнасьць становішча, працягваў усё-ж такі памалу прасоўвацца па сьледу. Між іншым у гэту мінуту я адчуваў сябе параўнаўча спакойна.

У маіх руках быў найлепшы спрабава-

[1]) Ламадза—па карэйску тыгра.

нага бою, двохрульны грынераўскі штуцэр-экспрэс 500 калібра, на які я мог сьмела пакладацца.

Маркуючы, што тыгра затаіўся за валежынай, я абыходзячы яе, некалькі адхіліўся ў бок ад сьледу, лічачы, на выпадак сустрэчы з ім, мець некаторую свабодную адлегласьць, але, абышоўшы валежыну, упэўніўся па сьледу, які віднеўся ўперадзе, што тыгра тут не затрымаўся, і пайшоў у абход новай, недалёка ляжаўшай, яшчэ больш буйной валежыны. Зрабіўшы той-жа самы манэўр і ў гэтай валежыны і абышоўшы яе з процілеглага боку, я таксама не знайшоў тут тыгра, хаця быў упэўнен у тым, што абавязкова тут з ім сустрэнуся. Разам з тым я найшоў на ствале валежаны дзьве найлепш адцiснутыя пярэднія лапы, і як-бы сьлед ад морды між імі. Відаць было, што зьвер тут нас чакаў, спадзяючыся злавіць аднаго з маіх сабак, а калі гэта ня выгарала, рашыў лепш уцячы.

Для ачысткі совесьці я прайшоў па сьледу яшчэ з поўкілёмэтра і, знайшоўшы далейшае прасьледваньне не патрэбным, павярнуў назад да партыі. Жадаючы-ж даць ёй знаць аб сваім вяртаньні, стрэліў. Усьлед за гэтым пачуўся трэск па тайзе казакоў, якія сьпяшаліся да мяне, убачыўшы мяне цэлым і спакойным, яны спыніліся ў нерашучасьці.

— Што-ж, бачылі тыгру?

— Не, ня бачыў. Ён не пажадаў са мной сустрэцца. А быў зусім блізка. Чуць-чуць не праглынуў карэйскага сабаку. Ды вельмі ён ужо шустры, пасьпеў уцячы.

— То-то, мы глядзім; сабака прыбег, усё дрыжыць і пішчыць. Думалі, што вы яго за што-небудзь пабілі.

— Вось тут,—кажу,—валежына недалёка, дзе ён нас і чакаў, а потым, як з засадай нічога ня вышла, непрыкметна ўцёк.

— Вельмі проста,—заявіў аўторытэтна казак.—Яму не наруку у адкрытую з чалавекам. Ну, і шкодны ж! Наравіць усё больш з падцішка, з засады. Шкодней яго, подлюкі, зьвера няма, „аднак“.

**П. Акімаў.**
(„О—нік“).





Рэдакцыя: Міх. Шмідт,
Р. Сільнікаў,
П. Тамашэўскі.

Адказны рэдактар Міх. Шмідт.